— Каго любіш?

— Люблю Беларусь!



ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ
ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

1 ЛІСТАПАДА 1996 г. № 44 (3868) Кошт 2 500 руб.

## ПРЭЗІДЭНЦКІ ГОЛ: У ЧЫЕ ВАРОТЫ?

***Вольга АБРАМАВА; "Паводле існуючай Канстытуцыі праз рэферэндум можна толькі прымаць дапаўненні і папраўкі ў Асноўны закон, вынясенне ж на ўсенароднае апытанне праекта новай канстытуцыі ва ўсіх дэмакратычных краінах лічыцца незаконным".***

**5, 12**

## "ГОРКА ПЛАЧА ЛЕБЕДЗЬ АДЗІНОКІ"

***Роздум Алеся БЕЛЬСКАГА над кнігай Генадзя Бураўкіна "Узмах крыла".***

**6**

## "ПОГЛЯД, ПОКЛІЧ, ПОШЧАК"

***Вершы з новай кнігі Максіма ЛУЖАНІНА.***

**8**

## "У МОРДУ — РАЗ, У МОРДУ — ДВА"

***Апавяданне Віктара СУПРУНЧУКА.***

**9, 12**






Антаніна ХАТЭНКА

# ДЗЯДЗІНЕЦ

I

Край мой... Ступаю праз цемры навалу.
Боль мой не гасне з гаручай слязой.
Свецяцца белыя ў ночы прагалы —
праўды прамень ці прысуду лязо?

Быццам іду па ікластым іржышчы
здраднае прышласці, звыклай маны.
Шэрыя гмахі — душы папялішча,
гучныя словы — жуды лахманы.

Белая сцежка ці прывід збавення?
Мо, гэта шлях мне падказвае дзед...
Ліпкая цемрадзь. Нябёсаў скляпенне.
Голад пустэчы... Наступнікаў след?..

Лёхі бяспамяцтва скрухай агорнуць.
Плечы дарог палыном зараслі.
Толькі бясстомна раздзьмухваюць горан —
зніч Перуновы — дзядзькі-кавалі.

Хіба іду я з нямое пустэльні,
хіба я толькі нашчадка віны?
Могілкі прадзедаў — горкае зелле,
свет кругаценяў, зваротнасць вясны...

II

Скрушна іду скамянелым прагалам:
не затаптаці руплівіцам мой шлях,
не здратаваці вясёлым кагалам...
Мой — Перуновы — агонь не ачах.

Родна зямелька — парэпаны рукі.
Грудзі апечаны свечкай бяды.
Тут працавалі дзяды без прынукі,
падалі знічкі журботна ў сады.

"Западный край!" "Не! Усходнія крэсы!" —
плакалі кветкі на жытняй мяжы.
Хто каля нашае печы ні грэўся!
Хто крумкачом на душу ні кружыў!

Спіны балелі. Жанкі галасілі.
Жылы трымцелі. Лядзеніла кроў.
Літасці Божай сіроты прасілі.
Стыла святло зруйнаваных муроў.

Толькі не кленчыў салодкае долі
Край белакрылы, хоць Захад і Ўсход
зманна дражнілі падзоранай воляй —
Волю паэтавы спеліў народ.

III

Жніўнай зямлі ўратавальная луста.
Смерці й радзінаў тугі кругаход.
Доўгае ночы таемная хуста.
Скрушная кніга бясконцых нягод.

Зоркі, як вочы, сплываюць у далеч,
Поўніца поўні — маркотай сівой.
Вербы задумна ўздоўж лёсу пасталі.
Бачу спрадвечнай дарогі сувой.

Летапіс людскасці нашай — нябёсы —
здаўна вучуся душою чытаць.
...Дыхае, помніць і моліцца Космас:
Быць у бязвер'і? Ці ў веры паўстаць?

Верую ў хвалю жывое Прасторы,
верую ў прашчура дрогкую ніць...
Покуль мой свеце — не сцюжная змора,
прагну ахвярны вагонь запаліць.

Толькі б грамнічная свечка не згасла,
не ўдзірванела ў расстанні зямля,
падпе已ражуся жытоў перавяслам
і да вытоку вярнуся здаля.

Можа, праз шэры туман адцурання,
засьву зацятай варожасці ўрэшт
мякка засвеціць мне роднае ранне,
выплыве ў золак прасветлены верш.

*(Працяг на стар. 4)*

# МіМ КОЛА ДЗЁН

**Між іншым, да паўторных выбараў у Вярхоўны Савет засталося ўсяго тры тыдні. Як, зрэшты, і да рэферэндуму. Але калі пра рэферэндум мы бачым, чуем і чытаем штодня, то пра выбары ў афіцыйным друку і тэле-радыё — ні гуку, ні слова. З ранейшых часоў мы памятаем пра рэгістрацыю кандыдатаў, перадвыбарчую барацьбу — публічныя выступленні, плакаты, улёткі... Дзе ўсё гэта? Такое ўражанне, што ўлады, услед за БНФ, вырашылі ў выбарах не ўдзельнічаць, байкатаваць іх. А навошта, маўляў, — "все равно обманут"... Як бы там ні было, але ўжо сёння відавочна: паўнакроўныя, сапраўды дэмакратычныя і ўсенародныя выбары на Беларусі наўрад ці адбудуцца. Тактыка замоўчвання іх, якую абрала прэзідэнцкая каманда, абапіраючыся на манапалізаваныя СМІ, пакуль перамагае...**

## ЦЫТАТА ТЫДНЯ

"Самае дзікае, чым мы абавязаны правадыру нацыі сёння — *разбурэнне грамадства* з дапамогай хлусні на тэлебачанні, на радыё і ў іншых сродках масавай інфармацыі. *Разбурэнне людзей. Разбурэнне іх псіхікі. Разбурэнне іх сумлення. Выхаванне ў іх нянавісці* прычым гэтая нянавісць узрастае з кожным днём. Прэзідэнт сабраў пад свае сцягі велізарную армію хлусаў, паклёпнікаў, прафесійных правакатараў. Армію лакеяў ад журналістыкі, філасофіі, гісторыі, юрыспрудэнцыі, невукаў з вучонымі ступенямі і прафесарскімі званнямі. Гэтыя людзі занялі апостальскую нішу ў сродках масавай інфармацыі і паступоваператвараюць народ у бальшавіцка-афрыканскае племя без інтэлекту і сумлення. Хлусня, як заразная хвароба, як вірус, як бацыла. Своеасаблівы, нябачны зроку СНІД, які раздзірае грамадства на "нашых" і "чужых", пасюдна сее нянавісць і глупства, пошасць і безгустоўнасць..."

*(З выступлення на пасяджэнні Нацыянальнага кангрэса ў абарону Канстытуцыі кінарэжысёра Віктара Дашука, "Народная воля", N 97).*

## ДАТА ТЫДНЯ

На сёння, 1 лістапада, прызначаны разгляд у Канстытуцыйным судзе Беларусі справы аб адпаведнасці Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь пастановы Вярхоўнага Савета аб правядзенні рэферэндуму. Па сутнасці, гэта будзе разгляд двух праектаў змен у Канстытуцыю Беларусі, якія прапанаваны прэзідэнтам і дэпутатамі Вярхоўнага Савета.

Нагадаем, што ініцыятарам разгляду гэтай справы ў КС быў спікер парламента Сямён Шарэцкі. Калі Канстытуцыйны суд, як і эксперты Савета Еўропы і іншых міжнародных арганізацый, прызнае названыя праекты не зменамі і дапаўненнямі, а новымі Канстытуцыямі, то канфліктуючым бакам давядзецца шукаць сапраўдны кампраміс: альбо прыняць гэтак званы "нулявы варыянт", альбо рэферэндум будзе неправамоцным.

## АБВЯРЖЭННЕ ТЫДНЯ

Старшыня Канстытуцыйнага суда Беларусі Валерый Ціхіня надрукаваў у апазіцыйным друку (афіцыйны і для яго закрыты) заяву, у якой абвяргае чарговае сцвярджэнне А.Лукашэнкі (на гэты раз 22 кастрычніка ў праграме РТР "Час пік"), што ён быў адзіным дэпутатам, які прагаласаваў супраць ратыфікацыі белавежскіх пагадненняў у снежні 1991 года. Як і пісалі раней газеты, А.Лукашэнка быў сярод тых дэпутатаў, што прысутнічалі на пасяджэнні парламента, але не галасавалі, а адзіным дэпутатам, які прагаласаваў "супраць", быў якраз В.Ціхіня... "Я не хацеў бы, каб нехта сёння, у тым ліку і Аляксандр Лукашэнка, спрабаваў прысвоіць мой голас", — піша В.Ціхіня. Прызнанне важнае, аднак, на жаль, крызу запознenae. Бо ўся СНД ужо "ведае" "праўду" ад прэзідэнта.

## КАНФУЗ ТЫДНЯ

На мінулым тыдні Вярхоўны Савет Беларусі атрымаў тэлеграму з дужа арыгінальным зместам. Пачыналася яна словамі: "Прэзідэнту Беларусі Станіславу Шушкевічу..." Дасылаў яе кароль Іспаніі Хуан Карлас, які пралятаў над тэрыторыяй Беларусі ў сувязі з візітам у Рэспубліку Карэя. Такую вось аплявуху атрымала беларускае МЗС і ўся наша дыпламатыя: кіраўнік неапошняй у Еўропе дзяржавы дагэтуль не ведае, што ўжо больш за два гады Беларуссю кіруе А.Лукашэнка... Праўда, вяртаючыся з Карэі, Х.Карлас "памылку" выправіў, але горкі прысмак ад яе застаўся...

## СІТУАЦЫЯ ТЫДНЯ

Можна было б назваць гэта супрацьстаяннем, але яно настолькі кволае, што на такую ацэнку "не цягне". Аднак, тым не менш, не спадае напружанне ў калектыве "Народнай газеты" ў сувязі з прызнаннем Канстытуцыйным судом незаконнымі ўказаў прэзідэнта аб гэтым выданні і спробамі рэдактара ад парламента Л.Юнчыка заняць сваё законнае крэсла. А таму патрапіць сёння ў Дом прэсы, а тым больш на паверх, які займае "НГ", простаму смяротнаму амаль немагчыма. Міліцыя строга сцеражэ прэзідэнцкую "законнасць". Законнасць у двукоссі яшчэ і таму, што пра якую незалежнасць ад вышэйшых уладаў і дзяржавы "НГ" можна сёння гаварыць, калі галоўнага рэдактара газеты абірае не калектыў, а прызначае сваім указам прэзідэнт?..

## АКЦЫЯ ТЫДНЯ

Таварыства беларускай мовы і Таварыства беларускай школы распачалі збор подпісаў пад патрабаваннем да ўладаў забяспечыць грамадзянам Беларусі іх канстытуцыйнае права на атрыманне вышэйшай адукацыі па-беларуску. На сёння ў нашай краіне няма ніводнай ВНУ, дзе б выкладанне вялося выключна па-беларуску. Хай і скарачаецца апошнім часам колькасць беларускамоўных школ і класаў, але яны ёсць і ў іх выпускнікоў павінна быць перспектыва працягваць навучанне на роднай мове — сцвярджаюць аўтары звароту. Ініцыятары акцыі хочуць дабіцца адкрыцця Беларускага нацыянальнага універсітэта, альбо надання статуса нацыянальнага аднаму з існуючых ужо універсітэтаў пасля пераводу яго на беларускую мову навучання. Вось вам прыклад змагання з дыскрымінацыяй, якой свет не бачыў. А нашым "дамарошчаным" русафілам і беларусафобам гэтакай вось "роўнасці" рускай і беларускай моў мала, на УНС яны прапанавалі прэзідэнту ў ягонай канстытуцыі назваць дзяржаўнай і рускую мову. І прэзідэнт пагадзіўся.

## НАМЕР ТЫДНЯ

Заўтра, 2 лістапада, на Беларусі чырвоны дзень, свята — Дзяды. Мінгарвыканкам даў дазвол на правядзенне ў Мінску ў гэты дзень шэрагу акцый у памяць аб продках. Пачнуцца яны на плошчы Незалежнасці, ля Чырвонага касцёла ў 12 гадзін, потым удзельнікі акцыі накіруюцца да будынка КДБ, а далей — да Маскоўскіх могілак. Ад могілак да Курапатаў будзе наладжана шэсце, а ў самых Курапатах адбудзецца мітынг памяці ахвяраў палітычных рэпрэсій. Па традыцыі арганізатарамі адзначэння "Дзядоў" у Мінску сталі кіраўнікі БНФ.

---

*З нагоды*

# ДАПАМОЖАМ САМІ САБЕ

Постсавецкая рэчаіснасць сфармавала прэзідэнцтва ў Беларусі менавіта такім, якое сёння маем. Спадар Лукашэнка толькі працягвае рабіць тое, што калісь пачынаў спадар Кебіч. Менавіта В.Кебіч стварыў у Саўміне структуры, якія па сваіх функцыях нагадвалі галіновыя аддзелы ЦК КПБ — яны не былі прадугледжаны Канстытуцыяй, але ад іх выходзілі дырэктывы; яны імкнуліся распаўсюдзіць свой кантроль на ўсе ўладныя структуры краіны (асабліва на сілавыя міністэрствы), але іх саміх узяць пад кантроль было немагчыма. Гэты вопыт скарыстаў А.Лукашэнка пры стварэнні Адміністрацыі і вертыкалі.

Адчуўшы небяспеку адстаўкі, В.Кебіч выводзіў на вуліцы ўнутраныя войскі і ўводзіў узброеных людзей у будынак парламента. Потым гэта ж самае рабіў і А.Лукашэнка.

Пры В.Кебічы пад крылом Саўміна множыліся камерцыйныя структуры, — як цяпер пры Адміністрацыі.

Пра некаторыя знешнепалітычныя акцыі В.Кебіча спікер ВС С.Шушкевіч даведваўся з газет. Тое самае робіць цяпер і А.Лукашэнка.

Спіс паралеляў можна было б доўжыць, але галоўнае ў тым, што глеба для актыўнасці сп.Лукашэнкі была падрыхтавана бяздзеяннем мінулага камуністычна-інвалідна-ветэранскага Вярхоўнага Савета. І вельмі сімвалічна, што і сам Аляксандр Рыгоравіч выйшаў з народных дэпутатаў.

Аднак менавіта той, ашаломлены гістарычнай адказнасцю, што звалілася на ягоную галаву, парламент прыняў ва ўмовах, калі на Авальную залу ціснула плошча, шэраг дакументаў лёсавызначальнага характару. Так што і ад сённяшніх парламентарыяў мы чакаем палітычных крокаў, адпавядаючых сітуацыі. Але часу на гэта застаецца ўсё меней.

У мінулы панядзелак з нетраў Адміністрацыі прэзідэнта да народа выправілі зварот і ўказ. Зварот, калі яго ачысціць ад камуфляжнага шалупіння, зводзіцца да аднаго сказа: "Нікому — ні асобам, ні партыям, ні парламенту — я не дазволю перашкаджаць мне раіцца з народам, тым болей, што "веча" маю лінію ўхваліла". Гэта прыстрэлка. А вось указ — гэта стрэл ледзь не ў "дзесятку". Кінуўшы парламенту костку ў выглядзе даты рэферэндуму 24 лістапада, прэзідэнт далей збіраецца гуляць па ўласных правілах. Ён будзе ігнараваць рашэнне Цэнтрвыбаркама аб недапушчальнасці сітуацыі, калі урны і бюлетэні выносяцца за тэрыторыю выбарчага ўчастка нібыта для зручнасці старых і хворых выбаршчыкаў. І галоўнае: рэферэндум будзе расцягнуты ў часе, ён распачнецца 9 лістапада і скончыцца 24-га. Пры такіх умовах сп.Лукашэнка атрымае не тое што 99,9% памятных нам па савецкім часе, але і ўсе 200% галасоў "за".

Як звычайна, перамір'е прэзідэнт скарыстаў лепей, чым ягоныя апаненты. Дастаткова яму было адчуць няўпэўненасць у "стане ворага", як перайшоў у атаку.

Еўропа і Расія ў дадзенай сітуацыі зрабілі для нас усё, што яны маглі зрабіць, не пераходзячы межаў дыпламатычнага пратаколу. Словы Ельцына, сказаныя сам-насам Лукашэнку, і гучныя заявы ўплывовых палітычных сіл Захаду адносна сітуацыі ў Беларусі ўстрымалі прэзідэнта 19 кастрычніка рэзка "нацягнуць коўдру" на сябе, паставіць так званае "веча" над парламентам. Але нашу крэўную справу за нас ніхто не зробіць. Дэмакратыя — гэта не рэвалюцыя, яна не можа быць прадметам экспарту-імпарту...

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

---

*Імпрэзы*

# МНЕ ДЗІЎНЫЯ ПЕСНІ СПЯВАЛА МАЛДОВА...

"У любой сітуацыі можна сябраваць, можна спяваць, можна радавацца жыццю", — так сказаў А. Ваніцкі, вітаючы ўдзельнікаў Тыдня малдаўскай культуры ў Беларусі. Старшыня Таварыства дружбы і культурнай сувязі (а менавіта там і адбыўся прыём) расказаў пра тое, як ствaралася таварыства Беларусь—Малдова: далі аб'яву ў газеце — і прыйшла цэлая зала людзей.

Намеснік старшыні згаданага таварыства, паэт У.Скарынкін спыніўся на літаратурных сувязях двух рэспублік, расказаў пра свае ўражанні ад наведванні сонечнай Малдовы.

Нетрадыцыйным для такога роду сустрэч было выступленне С. Грахоўскага: з малдаванамі ён пасябраваў у страшныя часы сталіншчыны, у нечалавечых умовах аднаго з сібірскіх лагераў. "Гаспадарыняй нашых сэрцаў" назваў наш старэйшы паэт прысутную тут оперную зорку Марыю Біешу, якая неўзабаве праспявала два цудоўныя рамансы. Артыстка не забылася згадаць пра тое, што першы яе сольны канцэрт адбыўся некалі якраз у Беларусі.

Ад імя афіцыйнай дэлегацыі гасцей слова брала заслужаны дзеяч мастацтваў начальнік Упраўлення міністэрства культуры Малдовы С. Бівал, ад абшчыны малдаван у Беларусі — ваенны хірург Г.Пушкаш. Палкоўнік у адстаўцы прыемна здзівіў прысутных сваімі вершаванымі экспромтамі-прысвячэннямі ў адрас М.Біешу і Я.Догі.

Сярод канцэртных нумароў, якімі абмяняліся бакі, звярнулі на сябе ўвагу народная беларуская песня ў выкананні супрацоўніцы Цэнтра нацыянальных культур Л.Балаўнёвай, а таксама фальклорная група гурта "Шматгалоссе" гэтага ж цэнтра.

**Г.З.**



*На здымку: самы юны ўдзельнік Дзён культуры Малдовы ў Рэспубліцы Беларусь скрыпач Іліан Гырнец. Фота Я.КАЗЮЛІ, БЕЛТА*

# І ЗА МАЛДОВУ МАЛІЛІСЯ...

Асабліва ўрачыстым было набажэнства ў сталічным касцёле святых Сымона і Алены 27 кастрычніка. Да мінскіх каталікоў завіталі ўдзельнікі Дзён культуры Малдовы на Беларусі. Ксёндз-магістр Уладзіслаў Завальнюк, які спраўляў набажэнства, заклікаў вернікаў маліцца і за гасцей нашых, і за іх краіну. Асаблівую ўзнёсласць атмасферы храма надалі спевы цудоўнай Марыі Біешу: "Ave Maria" — магутна і светла гучаў, падтрыманы арганам, знаёмы голас... Як і заўсёды па нядзелях, з набажэнства ў Чырвоным касцёле вялася трансляцыя па першай праграме Беларускага радыё (пад рубрыкай "Голас душы").

**С.Б.**

---

*Рэпліка*

# ВАКОЛ УЛАДЫ

Кожную нядзелю на нас ва ўпор глядзіць з экрана бледны персанаж, якому месца хіба што ў фільме жахаў. "Не пора ли народу прекратить эту борьбу?" — злавесна пытаецца герой перыяду навейшай беларускай гісторыі. Той, каму не выпала шчасце бачыць і чуць чарговы "Рэзананс", недаўменна запытаецца: якую такую барацьбу павінна спыніць наша насельніцтва, якое па звычцы называюць народам?

Тлумачу. Вядучы перадачы "Рэзананс" А. Зімоўскі (кажуць, неблагі эканаміст і знаўца банкаўскай справы) меў на ўвазе **барацьбу за ўладу.**

— Як жа так? — зноў не разумее чытач, які не быў гледачом у мінулы выхадны. — Барацьба за ўладу існуе столькі, колькі род людскі. За ўладу змагаліся правадыры плямёнаў і ўдзельныя князі, каралі і арыстакратычныя дынастыі, партыі і дзяржаўныя дзеячы. Нават А. Лукашэнка, перш чым стаць прэзідэнтам, яшчэ як змагаўся з В. Кебічам.

Ну, дык то Лукашэнка... Яму можна. І як толькі ён займеў гэтую жаданую рэч, то ўсе астатнія ахвочыя да яе грамадзяне павінны ўзяць пад казырок і, што б ні рабілася, паводзіць сябе з дысцыплінаванасцю мышэй пад венікам. Ніякіх амбіцый, ніякіх прэтэнзій на "оную", ніякіх спроб штосьці палепшыць, ніякай, барані божа, нязгоды! Адным словам, улада ў надзейных руках, быць ёй там вечна, і не рыпайцеся. Новая зорка беларускай тэлежурналістыкі, мабыць, мела на ўвазе, што палітыка (а гэта і ёсць барацьба за ўладу) павінна знікнуць на Беларусі як від дзейнасці. І не сама па сабе, а з дапамогай таго самага народа.

Бедны народ! Да яго сёння апелююць жук і жаба — перацягваюць на свой бок, заклікаюць, перасцерагаюць, вучаць... А большасць народа ў газетах чытае толькі праграму тэлеперадач, а па тэлевізары глядзіць адно канцэрты і мастацкія фільмы.

Ёсць усе падставы чарговы цынічны досціп А. Зімоўскага — накант адносін Вярхоўнага Савета і В. Ціхіні — пераадрасаваць яму самому. Як там у яго? "Не суетитесь под клиентом". Тым болей, што "кліент" не вашай камплекцыі...

**ЛІМАВЕЦ**

---

*Анонс*

# "БК" ЗАПРАШАЕ...

Чатыры канцэрты адбудуцца падчас чарговага фестывалю "Адраджэнне беларускай капэлы". Як расказала рэдактар Нацыянальнага тэатральна-канцэртнага аб'яднання "Беларуская Капэла" Наталля Собалева, імпрэза пройдзе з 4 па 9 лістапада і прадставіць узоры музыкі эпохі Рэнесансу і Барока. Апроч нашай спадчыны, прагучаць і ўзоры італьянскай музычнай творчасці XVI—XVII стст., якая рабіла ў свой час моцны ўплыў на фарміраванне еўрапейскіх мастацкіх традыцый. Адбудуцца канцэрты з удзелам арганіста Канстанціна Шарава, мужчынскага камернага хору "Унія" пад кіраўніцтвам Кірылы Насаева і хору хлопчыкаў Рэспубліканскага ліцэя пры Акадэміі музыкі пад кіраўніцтвам Уладзіміра Глушакова, Ансамбля салістаў "Класік-Авангард" на чале з Уладзімірам Байдавым, гітарыста Яўгена Грыдзюшкі, оперных спевакоў... Усе канцэрты ладзяцца ў Зале на Залатой Горцы.

**Н. К.**

# ПРЭЗІДЭНЦКІ ГОЛ: У ЧЫЕ ВАРОТЫ?

КАРЭСПАНДЭНТ "ЛіМа" Міхась ЗАМСКІ ГУТАРЫЦЬ З САКРАТАРОМ КАМІСІІ ПА МІЖНАРОДНЫХ СПРАВАХ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ, ПАЛІТОЛАГАМ Вольгай АБРАМАВАЙ

**М.ЗАМСКІ: Усе палітычныя дыскусіі, што набываюць у нас усё больш востры, жорсткі, я б сказаў, канфрантацыйны характар, звязаны ў асноўным з палітыка-эканамічнымі і сацыяльнымі праблемамі ў краіне. Што датычыць міжнароднага становішча рэспублікі, дык тут у грамадстве, не без дапамогі афіцыйнай прапаганды, усталявалася трывалая думка, што, кажучы высокім "шцілем", "чуцен голас наш далёка", што Беларусь трывала заняла "свой пачэсны пасад між народамі свету" і да т.п. Ды і прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка ніколі не праміне выпадку згадаць, са сколькімі краінамі свету ў нас усталяваны дыпламатычныя сувязі.**

**На фоне гэтай "благостной" карціны асабліва непрыемна ўразілі апошнія дыпламатычныя правалы нашай краіны. Варта згадаць хоць бы нядаўні так званы "дэмарш паслоў", калі сп. Лукашэнка абвінавaціў паўнамоцных прадстаўнікоў некалькіх вядучых краін свету ледзь не ў змове супраць суверэнітэту рэспублікі, празрыста намякнуўшы, што ведае пра тое, якія размовы вядуцца за шчыльна зачыненымі дзвярыма пасольстваў. У адказ Беларусь атрымала рэзкую водпаведзь урада ЗША... Або вось яшчэ адзін, зусім нядаўняга часу выпадак, калі кіраўнік краіны ў самай зняважлівай форме ахарактарызаваў аўтараў мемарандуму, дасланага яму ад імя ўрадаў Англіі, Францыі, Германіі і Італіі, абвінаваціўшы гэтыя краіны ва ўмяшальніцтве ва ўнутраныя справы Беларусі...**

**В.АБРАМАВА:** Самога тэксту мемарандуму я не бачыла, ведаю толькі, што там быў выказаны непакой з нагоды абвастрэння ў рэспубліцы ўнутрыпалітычнай сітуацыі, занядбання дэмакратычных правоў грамадзян, парушэння канстытуцыі. Дакумент утрымліваў зварот да сп. Лукашэнкі трымацца ў сваёй дзейнасці ў рамках прававога поля, уласцівага для дэмакратычных краін свету. Калі гэтага не адбудзецца, папярэджвалася ў мемарандуме, калі прэзідэнт пойдзе і далей на парушэнні канстытуцыі, яго дзеянні ў гэтым напрамку сустрэнуць самую негатыўную рэакцыю сусветнай супольнасці.

**— Скупымі паведамленнямі абмежаваліся афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі, згадваючы і візіт у краіну старшыні парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы пані Фішар. Але з паведамленняў апазіцыйнай прэсы, замежнага радыё можна было зрабіць высновы, што яна — вядомы і ўплывовы еўрапейскі палітык — негатыўна паставілася да парушэнняў прэзідэнтам Беларусі канстытуцыі, яго спроб паралізаваць працу парламента, самому прызначыць дату рэферэндуму і да т.п. Наколькі я ведаю, вы, Вольга Міхайлаўна, сустракаліся з пані Фішар у час яе візіту ў нашу краіну...**

— Так, старшыня камісіі па міжнародных справах Вярхоўнага Савета Пётр Кузьміч Краўчанка і я прымалі ўдзел у сустрэчы пані Фішар са спікерам парламента Сямёнам Георгіевічам Шарэцкім, які дэталёва праінфармаваў яе аб палітычнай сітуацыі, што склалася ў краіне, выклаў свае падыходы да вырашэння існуючых праблем. Мела магчымасць выкласці свой пункт гледжання і я. У прыватнасці, я звярнула ўвагу госці на тое, што ў нас адбываецца разбурэнне парламенцкіх каштоўнасцей, што наогул стварае пагрозу існаванню парламентарызму ў рэспубліцы. Гэтаму спрыяе спрэс негатыўны паказ дзейнасці Вярхоўнага Савета афіцыйнымі сродкамі масавай інфармацыі, прапанаваная прэзідэнтам рэдакцыя канстытуцыі, паводле якой роля парламента зводзіцца на нішто.

Мы пацікавіліся ў пані Фішар, як яна ставіцца да намеру Аляксандра Лукашэнкі склікаць так званы ўсебеларускі народны сход з наданнем яму некаторых паўнамоцтваў парламента. Яна адказала, што любы палітык можа склікаць 30—40 тысяч чалавек, каб з імі параіцца, але такі сход не можа быць нейкай аналогіяй парламенту і прымаць канстытуцыйныя рашэнні.

Пані Фішар сказала, што ў Савеце Еўропы ўважліва сочаць за разгортваннем падзей у Беларусі, бо наша краіна прэтэндуе на членства ў гэтай аўтарытэтнай і ўплывовай міжнароднай арганізацыі. Як вядома, беларусь ці не адзіная на кантыненце краіна, што засталася па-за сценамі Савета Еўропы. Нас туды пакуль што не прымаюць.

Акрамя згаданай сустрэчы, госця, як вядома, выступіла ў парламенце, знаёмілася з працай парламенцкіх фракцый, пагутарыла са старшынямі Цэнтрвыбаркама і Канстытуцыйнага суда, была прынята ў Кабінеце Міністраў і ў Адміністрацыі прэзідэнта. З самім прэзідэнтам ёй сустрэцца не ўдалося.

**— У дзень прыезду еўрапейскай госці спадар Лукашэнка, як вядома, гуляў у футбол са студэнтамі. Па сутнасці, ён свядома ўхіліўся ад гэтай сустрэчы.**

— Я б не стала так катэгарычна сцвярджаць. У кожнага кіраўніка дзяржавы складзены графік працы, дзе ўсё распісана па гадзінах на шмат дзён наперад. Што да візіту пані Фішар, дык ён быў запланаваны на 25—26 кастрычніка, але, улічваючы напружаную ўнутрыпалітычную сітуацыю ў краіне, Вярхоўны Савет папрасіў яе прыехаць раней. Што яна і зрабіла. Нягледзячы на гэта, прэзідэнт, будзем справядлівымі, згадзіўся на сустрэчу з госцяй. Але самалёт з пані Фішар спазніўся амаль на паўтары гадзіны, і Аляксандр Рыгоравіч адправіўся на, відаць, вельмі важнае для яго палітычнае мерапрыемства — сустрэчу з моладдзю.

**— Я не кажу, што кіраўнік дзяржавы не павінен гуляць у футбол, валейбол, тэніс, лапту, даваць нырца ў ледзяную ваду, ды яшчэ каб усё гэта фіксавалі тэле- і фотааб'ектывы. Зрэшты, папулярнасць заваёўваецца па-рознаму. Але, прабачце, ганяць мяч па полі, калі цябе чакае адзін з вядомых і ўплывовых палітычных дзеячаў Еўропы? Я не кажу ўжо пра элементарную мужчынскую галантнасць — з візітам прыехала ўсё-ткі дама... Ды, мяркую, не "палітычны" футбол стаў прычынай таго, што спадар прэзідэнт ухіліўся ад сустрэчы з пані Фішар. Відаць, не гарэў жаданнем Аляксандр Рыгоравіч бачыць яе, бо ведаў пра негатыўную ацэнку яго палітыкі з боку кіраўніцтва Савета Еўропы.**

**Колькі слоў, Вольга Міхайлаўна, аб праведзенай незалежнымі экспертамі Савета Еўропы экспертызы "прэзідэнцкага" і "парламенцкага" варыянтаў канстытуцыі, што выносяцца на рэферэндум.**

— Так, сапраўды, некаторы час назад Вярхоўны Савет звярнуўся да трох незалежных экспертаў па канстытуцыйным праве Савета Еўропы з просьбай зрабіць экспертызу, як вы кажаце, "прэзідэнцкай" і "парламенцкай" рэдакцый канстытуцыі на прадмет іх адпаведнасці канстытуцыйным і дэмакратычным нормам, прынятым у цывілізаваным свеце. Што тычыць "прэзідэнцкай" рэдакцыі канстытуцыі, дык пытанне было пастаўлена так: выходзіць ці не выходзіць яна за рамкі абумоўленых Асноўным законам паправак і дапаўненняў, якія могуць быць у яго ўнесены? Гэта было вельмі важна ўстанавіць, бо, паводле існуючай канстытуцыі, праз рэферэндум можна толькі прымаць дапаўненні і папраўкі ў Асноўны закон, вынясенне ж на ўсенароднае апытанне праекта новай канстытуцыі ў нас лічыцца незаконным.

**— І што сказалі эксперты?**

— Яны сказалі, што прапанаваная прэзідэнтам рэдакцыя канстытуцыі ўяўляе сабой новую форму дзяржаўнай улады, адным словам, новы Асноўны закон. Не адпавядае "прэзідэнцкая" канстытуцыя, на думку экспертаў, і існуючым у дэмакратычных краінах традыцыям і ўзаемаадносінам розных галін улады.

**— А парламенцкі варыянт?**

— Ён таксама з'яўляецца новым Асноўным законам. Ну, хоць бы таму, што мае на ўвазе скасаванне ў краіне інстытута прэзідэнцтва, зафіксаванага ў існуючай канстытуцыі.

**— Для вас гэтыя заключэнні экспертаў былі нечаканымі?**

— Зусім не! Яны толькі пацвердзілі тое, пра што я гаварыла ў палеміцы з прэзідэнтам, калі ён выступаў у парламенце 6 кастрычніка. Калі вы чулі, я яму сказала, што ён прапануе на рэферэндум новую канстытуцыю, што з'яўляецца незаконным.

Асабіста я лічу, што існуючая канстытуцыя адпавядае дэмакратычным нормам і, наогул, патрэбам сённяшняга дня. Праўда, гэта не азначае, што ўсё ў ёй дасканала. Сама канстытуцыя прадугледжвае ўнясенне ў яе дапаўненняў і паправак. Дык давайце збяромся разам, усе тры галіны ўлады і папрацуем. Можна выкарыстаць пры гэтым найбольш прымальныя мясціны і ў прэзідэнцкім, і ў парламенцкім варыянтах канстытуцыі. А было б яшчэ лепш, каб бакі адазвалі свае варыянты канстытуцыі. Пачалі ўсё, як кажуць, з нуля. Я, асабіста, за гэта.

**— Але ж прэзідэнт катэгарычна супраць такога павароту падзей!**

— Быў.

**— Вы думаеце, што ён адмовіцца ад свайго намеру ўстанавіць аўтарытарную ўладу ў Беларусі? Хоць і перанёс дату рэферэндуму з 7 на 24 лістапада? Дарэчы, чым вы тлумачыце гэтую раптам праяўленую "добрую волю" прэзідэнта? Я ж памятаю, як дэманстратыўна пакідаючы Авальную залу парламента, ён прыгразіў дэпутатам, што калі яны не пагадзіліся з ягонай датай правядзення рэферэндуму — 7 лістапада, дык пагодзіцца з ёй так званы ўсебеларускі сход, які ён збірае. І вось на гэтым пяцітысячным сходзе спадар Лукашэнка ад устаноўленай ім даты правядзення рэферэндуму адмаўляецца, хоць і задумвалася гэтае "веча" для ўхвалы ўсіх ініцыятыў прэзідэнта, і, мабыць, у першую чаргу — для пацвярджэння даты правядзення рэферэндуму 7 лістапада. Зараз прапрэзідэнцкія сродкі масавай інфармацыі робяць спробу зрабіць выгляд, што нічога асаблівага не адбылося. Ну, перанеслі дату выбараў на 24 лістапада, што з таго? Можна было і на любую іншую дату. Усё роўна перамога будзе за Лукашэнкам.**

— Але ж Аляксандр Рыгоравіч так упарта трымаўся за дату 7 лістапада не таму, што на гэты дзень прыпадае гадавіна Кастрычніцкай рэвалюцыі, а таму, што рэферэндум яму трэба было правесці да 24 лістапада — даты ўстаноўленай парламентам не толькі для правядзення рэферэндуму, а і давыбараў дэпутатаў Вярхоўнага Савета. Усё гэта блытае прэзідэнту карты, бо па яго варыянце канстытуцыі парламент будзе складацца ўсяго са 110 членаў (цяпер — 199, пасля давыбараў павінна быць 260 — колькасць, устаноўленая існуючай канстытуцыяй).

**— Я, Вольга Міхайлаўна, вяртаюся да свайго пытання — чым тлумачыце рашэнне прэзідэнта ў прызначэнні даты рэферэндуму пайсці насустрач парламенту?**

— Унутрыпалітычнай сітуацыяй у краіне, сітуацыяй гранічна напружанай. Гэта — папершае. Па-другое, сваю ролю адыграла непахісная палітычная воля парламента, якую ён дэманструе апошнія месяцы. У самы апошні момант, я лічу, бліжэйшае акружэнне прэзідэнта, а тут працуе нямала здольных прафесіяналаў, параіла яму адступіць, не дэманстраваць так яўна сваё пагардлівае стаўленне да канстытуцыйных норм. Разумееце, самаўласнае прызначэнне даты рэферэндуму было не проста парушэннем існуючай канстытуцыі, дзе чорным па белым запісана, што прызначэнне даты правядзення выбараў і рэферэндумаў — прэрагатыва Вярхоўнага Савета. Гэта было, так бы мовіць, якасна новым парушэннем, нават не такім, як 17 папярэдніх, зробленых ім і зафіксаваных Канстытуцыйным судом парушэнняў. Калі тыя яшчэ можна было неяк аспрэчваць, дык тут ужо нікуды не падзецца.

**— Зразумела. Вы добрай думкі аб прафесійных якасцях памочнікаў прэзідэнта. Але, думаецца, не без іх актыўнай дапамогі выпрацоўвалася "прэзідэнцкая" рэдакцыя канстытуцыі, не без іх парады прызначалася дата рэферэндуму — 7 лістапада. Яшчэ ж зусім нядаўна кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Мясніковіч заявіў на пасяджэнні Прэзідыума Вярхоўнага Савета, што ніякіх давыбараў дэпутатаў яны, г.зн. прэзідэнцкі бок, не дапусцяць.**

**Але я згодны з вамі, што рашучыя дзеянні парламента, апазіцыі прымусілі спадара Лукашэнку адмовіцца ад ідэі правядзення канстытуцыйнага перавароту. Усё ж, на маю думку, галоўную ролю ў гэтым адыграў Крэмль, якому даўно недаспадобы дыктатарскія манеры беларускага прэзідэнта. Помніцца, яшчэ ў час прэзідэнцкіх выбараў у Расіі Барыс Ельцын, выступаючы ў Омску, сказаў, што вымушаны быў даць Лукашэнку ўрок дэмакратыі. Меліся на ўвазе арышты ўдзельнікаў шэсця ў Мінску, прысвечанага дзесятым угодкам чарнобыльскай аварыі. Што на расійскай палітычнай кухні рыхтуецца нешта неадымае для яго, сведчылі і апошнія бліцвізіты нашага прэзідэнта ў Маскву. Як можна цяпер зразумець, у час нядаўняй яго сустрэчы з Ельцыным яму і было выказана патрабаванне не ісці сілавым шляхам. Не паслухацца "старэйшага брата" Аляксандр Рыгоравіч не пасмеў, адно адвёў душу перад удзельнікамі "ўсебеларускага сходу" сваімі зняважлівымі філіпікамі па адрасе "ўсіх гэтых Шушкевічаў, Багданкевічаў, Карпенкаў". Нават зрабіў спробу лягнуць расійскага прэзідэнта, калі, асядлаўшы любімага канька — Віскулёўскія пагадненні, ахарактарызаваў яго ўдзельнікаў, як палітычных прайдзісветаў...**

— Паўплывалі на апошняе рашэнне і гэты, і многія іншыя фактары, тыя ж, скажам, адносіны міжнароднай супольнасці.

**— І што далей?**

— Выкажу сваю асабістую думку. Мне здаецца, што цяпер прэзідэнт можа пагадзіцца на "нулявы варыянт". Ён адклікае свой варыянт канстытуцыі, мы — свой. Дарэчы, у парадак дня бягучай сесіі было ўнесена пытанне аб парламенцкіх слуханнях абодвух рэдакцый канстытуцыі. На іх можна было б выпрацаваць нейкую кампрамісную пазіцыю, скажам, у якасці дапаўнення ў існуючую канстытуцыю ўнесці вялікі блок артыкулаў па сацыяльна гарантыі грамадзян, хоць, вядома, гэтыя гарантыі залежаць не ад запісу ў Асноўным законе, а ад эканамічнага становішча ў краіне. Але гэтага патрабуе прэзідэнт, і тут можна было пайсці яму насустрач, як і ў некаторых іншых пытаннях дзяржаўнага ладу. Павінна толькі прысутнічаць добрая воля з абодвух бакоў.

**— Што і казаць, "худой мир лучше доброй ссоры"...**

— Сёння я заявіла ў парламенце, што адклікаю свой подпіс пад вядомай заявай 84 дэпутатаў аб унясенні на рэферэндум парламенцкай рэдакцыі канстытуцыі.

**— Даруйце, Вольга Міхайлаўна, але ж, наколькі я ведаю, вы былі яе прыхільніцай. І раптам — такі афронт!**

— Я лічу, што сваю ролю каталізатара грамадскай думкі ў пэўным напрамку парламенцкі варыянт канстытуцыі ўжо адыграў. Цяпер самае разумнае кожнаму з бакоў адмовіцца ад сваіх амбіцый.

**— Але ж пры цяперашняй сітуацыі той, хто гэта зробіць першым, гэта значыць першым зніме "сваю" канстытуцыю, той і прайграе... І потым, адклікаючы свой подпіс, вы не здраджваеце сваім учарашнім аднадумцам?**

— Не здраджваю. Зняццё аднаго подпісу нічога не мяняе. Я проста запрашаю прэзідэнцкі бок да згоды, канструктыўнага дыялога. Тады, калі выпрацоўваўся парламенцкі варыянт канстытуцыі, гэта было патрэбай дня — трэба было неяк процістаяць надыходу дыктатуры. І вельмі добра, што такі дакумент тады з'явіўся. Хоць, прызнаюся, я не падзяляла і цяпер не падзяляю яго палажэння аб скасаванні ў Беларусі інстытута прэзідэнцтва. Да ўсталявання парламенцкай рэспублікі мы яшчэ не падрыхтаваны.

**— А да прэзідэнцкай падрыхтаваны? Чаму ж тады столькі смуты ў краіне?**

— Многае залежыць ад асобы, якая займае пасаду прэзідэнта, ад яе псіхалагічнага складу.

**— Дарэчы, даўно заўважана, што ў спадара Лукашэнкі нішто не выклікае такую ярасць, як размовы аб скасаванні прэзідэнцкай улады, так што ваша прыхільнасць да інстытута прэзідэнцтва — бальзам на сэрца Аляксандра Рыгоравіча. На маю ж думку, у многіх нашых людзей на генетычным узроўні захавалася рабская псіхалогія, мець прэзідэнта — значыць, мець чарговага цара-бацюхну, які ўсё бачыць, усё разумее, пра ўсіх клапоціцца. Толькі б яму не перашкаджалі розныя ворагі... Вы ж паглядзіце, як хутка, літаральна на вачах усталёўваецца культ Аляксандра Лукашэнкі, якога ў народзе так ужо і называюць — бацькам. А вы кажаце...**

— Улада прэзідэнта павінна быць абмежавана канстытуцыяй, як у цывілізаваных краінах. Вунь паглядзіце, у Злучаных Штатах Амерыкі прэзідэнт не мае права распускаць кангрэс, а той, наадварот, можа па канстытуцыі аб'явіць прэзідэнту імпічмент.

**— Дык то ж у Амерыцы ці нейкай там Францыі!.. Я нядаўна гутарыў з дырэктарам інстытута сацыялогіі, акадэмікам Бабосавым. Ён расказаў, што ў час аднаго з апошніх сацыялагічных даследаванняў на пытанне, ці лічыце вы патрэбным мець у краіне кіраўніка з дыктатарскімі паўнамоцтвамі, 17 працэнтаў рэспандэнтаў адказала станоўча. Нямала!**

— Можна пагадзіцца з вамі наконт адмоўных бакоў прэзідэнцкай улады. Ды ідэальных улад наогул не існуе. Але ж сёння прэзідэнт на чале Беларусі — рэальнасць. І зараз настойваць на скасаванні прэзідэнцтва, значыць правакаваць кіраўніка краіны на сілавыя дзеянні супраць таго ж парламента.

**— Я не думаю, што аўтары "парламенцкай" канстытуцыі рэальна спадзяваліся на адмену прэзідэнцкай улады. Разлік быў на тое, каб перацягнуць на свой бок частку галасоў на рэферэндуме.**

— Так, задача ставілася — "разбіць" галасы. Але зараз патрэбы такой няма. Цяпер, калі прэзідэнт не пагодзіцца адклікаць сваю рэдакцыю Асноўнага закона, захоча правесці яе праз рэферэндум, ён павінен будзе зразумець, што гэта будзе апытанне людзей не па прапанаванай канстытуцыі, а пытанне аб даверы яму. Фактычна, паўторныя прэзідэнцкія выбары.

**— Можаце быць упэўнены, спадар Лукашэнка іх выйграе.**

— Я трымаюся іншай думкі. І наогул, я аптыміст, веру ў лепшае. І не думайце, што мы, дэмакраты, сядзім склаўшы рукі.

**— У нейкі момант нашай гаворкі мне падалося, што так дэмакраты і мяркуюць зрабіць. Але, магчыма, я памыляюся. Тады — поспехаў вам і дзякуй, Вольга Міхайлаўна, за гутарку.**

## КРЫЛО ТУГІ. "ДЫ ТЫЯ ФАРБЫ ШТОСЬ ДУША НЕ ЗАЎВАЖАЕ"

Раздзел "Разлукі чашу выпіў я да дна" складае пераважна лірыка, створаная ў далечыні ад Радзімы, на амерыканскім кантыненце. Там, у ЗША, Г. Бураўкін прадстаўляў Беларусь у Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. На чужыне, як прызнаецца мастак слова, паэтычная муза як бы адвярнулася ад яго:

**Як самотнікі па пустыні,**
**Разбрыліся словы ў нудзе.**
**Адбалелае сэрца стыне.**
**Утрапенне ў радок не ідзе.**

*("У смугу акіянскую...")*

Не стала душэўна блізкай "чужая прыгажосць", гняла настальгія, туга па роднай зямлі. Гэткае пачуццё зведаў не адзін паэт-беларус, які апынуўся на шляхах замежжа: "нішто не цешыць на чужыне", "душа ў прыдушаным настрою" (Р. Крушына), "У самоце такой пякельнай існую", "сузіральнік я толькі..." (М. Сяднёў). Амаль у кожным вершы, напісаным Г. Бураўкіным на чужыне, жыве думка-згадка пра бацькаўшчыну, маці, родную хату, магілы блізкіх, тут уваскрасаюць дарагія сэрцу пейзажныя вобразы: "берагі зялёныя Дзвіны", "усплеск" палескіх рэчак і гоман полацкіх бароў". Амерыканская ява будзіць у паэтавай душы элегічную споведзь. Паэт трызніў вяртаннем на Беларусь. "Як я рваўся дадому здалёк", — прызнаецца ён. Ды, на жаль, на сваёй зямлі зведаў "горкі сум", спраўдзілася нібыта яго прадчуванне, што нарадзілася "над бясконцасцю акіяна": "Я радзіме, відаць, не патрэбны". Гэткі настрой паэта цалкам зразумелы, але не той у яго характар, каб плакаць па сваёй долі, наракаць на маці-радзіму. Ён — сын Беларусі, яе патрыёт, і таму зноў энергічна, з уздымнасцю слова вядзе рэй за наш беларускі дом, яго святыні. А як жа інакш: паэт — абраннік Бога, ён пасланы ім выконваць высокую місію. З вуснаў творцы чуюцца скрушлівы ўздых і наступальны кліч, ён зноў і зноў б'е ў звон вялікага неспакою і трывогі. Нельга не адчуць, што ў радках паэта вірыць праўда і шчырасць пачуццяў.

## КРЫЛО ВОСЕНІ. "ХУТКА ПАЦЯМНЕЛА НЕБА ПРОСІНЬ..."

Зазірнуў у свой прадметна-частотны паказальнік: у паэзіі Г. Бураўкіна 15 твораў пра восень, гэта ў два разы больш, чым вясновых ці зімніх вершаў. Ва "Узмаху крыла" восень — таксама вызначальны лірычна-пейзажны вобраз. Тут паэт стварыў тры пейзажныя замалёўкі, дзве з якіх — "Непрыкметна падступіла восень..." і "Гартае восень жоўтыя лісты..." — напісаны на сапраўды анталагічным узроўні. Наогул, у анталогіі беларускай пейзажнай паэзіі толькі лірыка восені можа заняць цэлы вершаваны том. Чым жа адметныя вершы Г. Бураўкіна пра восень? Кажучы словамі Р. Крушыны, "дзіўнай музыкай слоў, іграннем пачуццяў на ліры"; а таксама сваім глыбінным элегізмам, медытатыўнай настраёвасцю:

**Гэта, змыўшы жнівеньскія цені,**
**Несуцешна плача свет асенні.**
**Плача вецер над зламанай слівай.**
**Плача неба над няжатай нівай.**
**Над свінцовай роўнядддзю затокі**
**Горка плача лебедзь адзінокі.**
**А між іх душа мая няйначай**
**Над самой сабой журботна плача.**

*("Непрыкметна падступіла восень...")*

"У гаях пажаўцела трава". "Гартае восень жоўтыя лісты". "Горка плача лебедзь адзінокі"... Аб чым ён маркоціцца, чаму плача душа паэта? Я спадзяюся, вы адчуваеце: птушка і чалавек сумуюць па радасці жыцця, сонцу, вясновай Беларусі.

**Алесь БЕЛЬСКІ**

---

Казіміраўне. І не менш каварнай "лэдзі Макбет" з Навагрудка, жонцы Міндоўга — Марце...

Кніга дае магчымасць даведацца аб тым, якое дачыненне да Беларусі маюць польская авантурыстка Марына Мнішак і расійская імператрыца Лізавета Пятроўна.

Па крупіцах збіралі аўтары звесткі пра славутых гераінь, выкарысталі каля сотні першакрыніц. Бо летапісцы ў асноўным занатавалі толькі тыя ці іншыя скандальныя гісторыі з жыцця жанчын, і амаль нічога не данеслі да нас пра сціплых, рахманых спадарожніц жыцця вялікіх герояў. Нават імёны жонак нашых беларускіх князёў, на жаль, нам вядомы далёка не ўсе. Тым большае ўхвалы заслугоўвае "Слава і няслаўе", кніга, якая, бясспрэчна, можа прэтэндаваць на навуковае даследаванне. І хоць яна адрасавана вучням старэйшага школьнага ўзросту, яе з задавальненнем прачытаюць і дарослыя. Бо пасля знаёмства з кожным з 34 аповедаў пра лёс знакамітых жанчын VI-XVIII стагоддзяў гісторыя Беларусі становіцца для нас больш блізкай, цікавай і зразумелай.

**Леанід РАМАНЕНКА, настаўнік-ветэран Рамельскай СШ Столінскага раёна**

---

Часопісы

# ГЭТАЕ СВЕТЛАЕ ІМЯ...

У вераснёўскіх нумарах "Маладосці", "Нёмана" і "Беларусі" можна знайсці нямала публікацый, якія зацікавяць чытача. Прытым у розных жанрах. Але, думаецца, найперш чытацкая ўвага засяродзіцца на "Полымі". Па даўняй завядзёнцы часопіс менавіта ў дзевятым нумары друкаваў новыя творы народнага паэта Беларусі М.Танка, выкарыстоўваючы для гэтага такую нагоду, як чарговы дзень нараджэння (17 верасня) Яўгена Іванавіча. "Полымя" гэтай сваёй традыцыі не здрадзіла і сёлета, і яго вераснёўская кніжка дае мажлівасць далучыцца да багатага духоўнага свету ўжо адышоўшага ад нас творцы. Палымянцы парупіліся і аб тым, каб у нумары знайшлося месца і матэрыялам пра самога М.Танка. Увогуле ў рэдакцыі мяркуюць і надалей вераснёўскі нумар рабіць менавіта танкаўскім і публікаваць у ім як згадкі пра Яўгена Іванавіча, так і літаратуразнаўчы аналіз яго творчасці, а таксама вяртаць чытачу творы паэта, якія, магчыма, у свой час па нейкіх прычынах не былі надрукаваны.

Гэты ж нумар адкрываецца вершамі, якія пісаліся М.Танкам у апошнія тыдні яго жыцця і пазначаны чэрвенем-ліпенем 1995 года. Іх не так і шмат — трынаццаць. Ды справа не ў колькасці, калі перад намі — талент такога маштабу. Усё, што з'явілася з-пад пяра М.Танка, выклікае цікавасць, вымагае паважнага і ўважлівага стаўлення да сябе. Тут жа — частачка таго, чым жыў паэт у той час, калі ўжо не мог не задумвацца, што зямная пуцявіна канчаецца, а наперадзе — невядомасць, якая не спяшаецца раскрыць чалавецтву сваю адвечную таямніцу і загадкавасць. Таму нямала ў гэтых вершах таго, што тычыцца асабістага лёсу, таму і знайшлося ў іх месца згадкам пра сяброў і блізкіх людзей. Ды хіба толькі асабістае ўсё гэта? За ім жа — супярэчлівая эпоха, сынам і грамадзянінам якой быў паэт, і частка біяграфіі пакалення, якое, як і ён, шмат вынесла на сваіх плячах, а напрыканцы жыцця вымушана было ў многім адмаўляцца ад колішніх ідэалаў. Хоць, навошта цалкам адмаўляцца? Ці не лепей крытычна паставіцца да таго, што было некалі, і гэтаксама пільна і аб'ектыўна, крытычна паспрабаваць разабрацца ў сённяшняй рэчаіснасці? Што і рабіў М.Танк у апошнія гады — і не толькі ў вершах, а і ў інтэрв'ю, якія даваў журналістам розных выданняў — праўда, гутаркі гэтыя былі і не такімі частымі, як хацелася б.

Аднак што характэрна: М.Танк у адрозненне ад многіх калег па пяры не збіраўся цалкам ставіць крыж на ўсім мінулым, а канкрэтней — мінулым савецкім. Як быў далёкі і ад думкі, каб ці не суцэльнымі воплескамі сустракаць усё, што адбываецца сёння. У падобным стаўленні таксама была пазіцыя. І таленавітага паэта, і сумленнага чалавека, і мужнага грамадзяніна, які ніколі не баіцца даваць пэўным падзеям і з'явам менавіта сваю ацэнку, пры гэтым не вельмі турбуючыся, што яна часам не супадае з агульнапрынятымі меркаваннямі, бо мае на тое маральнае права, якое заслужыў усім сваім нялёгкім, але сумленным жыццём.

І яшчэ... Чытаючы апошнія вершы Майстра, не можаш не здзіўляцца паэтаваму жыццялюбству, аптымізму. Нават тады, калі, здавалася б, асаблівых падстаў для гэтага няма і гняце думка аб немінучасці таго, што хутка адбудзецца. Як, для прыкладу, у вершы "Апошняя стрэча".

Бальнічная палата, адпаведны настрой і ў таго, хто ў ёй знаходзіцца, і ў тых, хто заходзіць праведаць хворага. Асабліва, калі ўзрост і наведвальнікаў "падцісквае": "Дзе тут Панчанка Пімен, У якой ён палаце?! Добры дзень! Не ўставай... А ты, Зоя, што плачаш?"

У гэты момант, калі боль сябра гэта і твой асабісты боль, з'яўляецца тая ўсмешка, якая і можа з'явіцца толькі ў сябра. Шчырага і адданага, занепакоенага лёсам таго, з кім столькі пройдзена сумесна дарог і якому ў дадзены момант куды цяжэй, чым табе самому. Падтрымаць маральна, духоўна, падтрымаць, паспрабаваўшы знайсці тыя адзіныя словы, якія не пападуцца дзяжурнымі і ў адказ прымусяць таксама ўсміхнуцца: "Як даўно не страчаліся Мы, валацугі, Пастарэлі так, што, Ледзь пазналі друг друга".

І, канечне ж, знаходзіцца месца згадкам, абодвум прыемным, успамінаецца пражытае і перажытае... Аднак усё гэта ў мінулым, а жыццё ж працягваецца. І хіба застанешся ад яго ўбаку? Асабліва, калі адбываецца столькі такога, што нельга ўспрымаць спакойна і абыякава. І нават у бальніцы пра яго нельга не гаварыць:

**Невясёлыя, дружа,**
**Сённяшнія навіны.**
**Хлебазбор ці дацягнем**
**І да палавіны.**

**Ў занядбанні яшчэ**
**І навука і мова...**
**З перакосам ідзе**
**Наша перабудова.**

А час прыспешвае: "Дактары гавараць Доўга забараняюць". І, мабыць, у думках абодвух недзе гатова прамільгнуць самае страшнае — не пабачыцца болей, ніколі не пабачыцца. Ды то — у думках, і хай яны блукаюць дзесьці ў свядомасці! А цяпер "так карціць на расстанні Сказаць: Да сустрэчы! З баявымі сябрамі, Заваліўшы у госці, Прыгадаць незабыўныя Дні маладосці". Апошняя страфа верша — і як падагульненне сказанага, і (яшчэ ў большай ступені!) як пэўная рыса пад пражытым, канстатацыя яго: "Маладосці, якая Гарталася ў горы, Ды ўсё роўна шкада, што Мінула так скора!"

Калі гаварыць пра асабістае, дык гэта найперш верш, што завяршае гэтую падборку і датаваны 24 чэрвеня 1995 года. У ім М.Танк згадвае самага блізкага чалавека, з якім незадоўга перад гэтым развітаўся назаўсёды (у нізцы змешчаны і вершы "З альбома Л." і "Памяці Л."). Гэты ж надзіва востра перадае паяднанасць родных душ. І цяпер, калі яны разышліся назаўсёды, той, хто застаецца жыць, працягвае адчуваць нейкую віну, хоць яе, безумоўна, няма і быць не можа. І ўсё ж спакой не прыходзіць: "Як жа сталася гэтак, Што пры любой прыгодзе Мы пакляліся разам Бурны Сцікс пераходзіць, — Ты адна не чакала, Калі сцішацца воды, Небяспеку забыўшы, Пайшла ў пошуку броду". Роспачны голас кіруецца туды, куды яму не дайсці. Ды і ў гэтым звароце палёгка, хоць невялікая, а палёгка: "Цяпер клічу цябе я, Адзіноцтвам праняты. Хто з нас клятву парушыў, Хто найбольш вінаваты?" І нечакана ўсё ж "віна" бярэцца на сябе. Так лепш, бо ты яшчэ жывы. Пакуль жывы:

**Пэўна — я, бо не ўбачыў**
**Праз начную заслону,**
**Як да берага бура**
**Гнала лодку Харона.**

Перасільваючы фізічную нямоглаць, пераадольваючы боль душэўны, М.Танк знаходзіў сілы і час, каб пісаць і творы, у якіх знаходзілася і месца асэнсаванню народнага вопыту. Канечне, рабілася гэта, як кажуць, не напрамую, а дзякуючы той глыбокай філасофскай напоўненасці радка, што заўсёды і была характэрнай для паэта. Пацвярджэнне таму і верш "Раскладанне лыжак". За сталом сабралася працавітая сялянская сям'я: "Вось бульбу высыпалі На настольнік. Пара ўжо раскладваць лыжкі". Кожная лыжка — гэта ў нейкай ступені і "партрэт" яе ўладальніка. А ўсё дзякуючы трапнасці паэтычнага малюнка, калі дастаткова некалькіх дакладных штрыхоў: "Першая — дзедава. Сам выстругаў На дрывотні З асінавага кругляка. Другая — салдацкая, Бацькава, Якую год кольлі Насіў за халявай. Трэцяя — бабіна, Вышчарбленая каля печы, Калі ад прынады Ката-памаўзу Адганяла".

Завяршэнне верша — яшчэ адно нагадванне, што кожная рэч у сялянскім жытле і на самай справе як бы адушаўлёная. І не толькі таму, што яна шмат гаворыць пра свайго ўладальніка:

**У любой з раскладзеных**
**Лыжак —**
**Цэлая біяграфія.**
**Шкада, што толькі пра ўсё**
**Часу няма расказаць,**
**Бо дзень — пасяўны,**
**Як вядома,**
**Нас цэлы год корміць.**

Здавалася б, такі просты верш і гэткая філасафічная напоўненасць радка! На першы погляд, і не верш гэта, а звычайная гаворка чалавека, які з вышыні вопыту дзеліцца тым, што запомнілася. Аднак падобнае стаўленне да паэзіі М.Танка памылковае. Дарэчы, пра гэта не прамінуў па-свойму сказаць ва ўспамінах пра Яўгена Іванавіча І.Шамякін, якія пад назвай "На камні, жалезе і золаце" таксама змешчаны ў "Полымі": "Я прыхільнік класічнай паэзіі, не вельмі люблю белы верш. Але паэзію Максіма Танка апошніх гадоў, калі ён пачаў аддаваць перавагу верлібру, я заўсёды чытаў з вялікай цікавасцю, бо ў творах гэтых нязменна прысутнічала глыбокая філасофія. А філасофская паэзія не кожнаму, нават таленавітаму паэту, пад сілу. Гэта не проста рамонкі і не бэз у падножжы гары, а ззяючая вяршыня яе — таямнічая і прывабная іншай прыгажосцю, высокім асэнсаваннем і сусвету, космасу, і лёсу тых, у каго хапіла сілы ўзысці на гэтую вяршыню.

Максім Танк узышоў!"

Наконт успамінаў І.Шамякіна... Хоць і напісаны яны тады, калі, як кажуць, боль па страце найталенавіцейшага паэта сучаснасці яшчэ не суцішыўся, тым не менш Івану Пятровічу ўдалося сказаць пра М.Танка вельмі і вельмі шмат. Відаць, не ў апошнюю чаргу сказалася ўменне І.Шамякіна назіраць за людзьмі і назіраць людзей, але яшчэ і таму, што разам яны працавалі шмат гадоў у апараце Саюза пісьменнікаў.

Пачаў "Полымя" публікацыю і "Дзённікаў" М.Танка, а ў сямейным архіве паэта іх захоўваецца 21 сшытак і яны ахопліваюць час з 1 ліпеня 1941 года да 26 снежня 1990-га і напісаны ад рукі. Астатнія (апошняе сведчанне за 23 мая 1994) зроблены на машынцы. У дзевятым жа нумары апошні запіс пазначаны 19 ліпеня 1956 года. Сорак гадоў мінула, а наколькі актуальныя развагі М.Танка?! "Як часта мы праўду замяняем легендамі, адсутнасць думкі — пустазвонствам, а бягучую палітыку стараемся спалучаць з мастацтвам! А потым дзівімся, што з гэтага нічога талковага ці вартага ўвагі не атрымалася. Значыць, у пошуках сваёй дарогі, не па гэтых азімутах трэба арыентавацца.

Мне здаецца, нельга перабольшваць уплыву літаратуры на развіццё грамадства, узвальваючы на яе непасільную віну за бесчалавечнасць палітыкі".

Падобных высноў, да якіх нельга не прыслухацца, ужо ў апублікаваных запісах шмат. І яшчэ на што нельга не звярнуць увагі — на тое, як М.Танк самакрытычна ставіўся да сваёй творчасці. У гэтым жа, несумненна, таксама адзнака сапраўднага таленту. Толькі звычайная шэрасць адмаўляе напісанае іншымі і гатова пастаянна заяўляць, што яго самога не зразумелі і разумець не жадаюць. Талент на такія дробязі не разменьваецца, ён стаіць куды вышэй гэтай мітусні, калі бездар ва ўсім вінаваціць каго ўгодна, а ніяк не можа знайсці часу, каб задумацца, а ці ён сам тое робіць, што трэба рабіць.

Што такое танкаўская паэзія, яе месца ў сучаснай літаратуры ды і ў жыцці грамадства, асэнсоўвае ў артыкуле "Вектар пераломных падзей" М.Арочка. "Творчае жыццё Максіма Танка, — піша даследчык, — увасабляе агромністы свет трывожных роздумаў і асабістых глыбокіх перажыванняў, аб'ектыўных зрухаў у грамадстве, пераломных падзей і набалелых праблем, што вызначаюць лёс беларускага народа. Шмат чаго ўмяшчае ў сябе паняцце "танкаўская паэзія": колькі тут непераўзыдзеных узораў, выкананых на вышэйшым узроўні сучаснай паэтычнай культуры, праблемнага матэрыялу для разгадкі наватарскіх шляхоў сапраўднага мастацтва і наватарскай сутнасці самога паэта. Тут яго ажыццяўленне важнейшых высноў эстэтычнай канцэпцыі, тут яго філасофія паэтычнай творчасці".

Уяўленне пра М.Танка-чалавека дае і нататка рэдактара акцябрскай раённай газеты "Чырвоны Кастрычнік" В.Лоўгача "Сама дабрыня зыходзіла", змешчаная пад рубрыкай "З рэдакцыйнай пошты".

У М.Танка ёсць чаму павучыцца. І не ў апошнюю чаргу таму, як трэба пісаць... Памятаючы пра гэта, палымянцы дапоўнілі "танкаўскі нумар" матэрыяламі высокай мастацкай вартасці. Цудоўным (інакш і не скажаш!) атрымалася апавяданне А.Жука "Партызан", у якім надзіва каларытны вобраз галоўнага героя... Ды і паэзія В.Макарэвіча, С.Панізніка, З.Дудзюк задаволіць чытача з самым высокім эстэтычным густам. У.Конан ("Паэтычны голас сумлення") знаходзіць свой падыход у прачытанні таго, што зроблена за 50 год творчай дзейнасці народным паэтам Н.Гілевічам. А яшчэ ў "Полымі" — аповесць М.Воранава "Карона", апавяданні С.Яновіча, рэцэнзіі...

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

*Прапаную ўвазе чытачоў штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва" апавяданне "У морду — раз, у морду — два..." пра дзіўную і загадкавую краіну Тапінамбур, аб якой былі і апавяданні "Баю, бай, мой Генерал" і "Іду служыць...", надрукаваныя раней у "ЛіМе".*

**АЎТАР**

Віктар СУПРУНЧУК

# У МОРДУ — РАЗ, У МОРДУ — ДВА



АПАВЯДАННЕ

У НАВАКОЛЛІ абудзілася птушынае царства. І ў трэці раз праспяваў адзіны на вёску певень. Астатніх пазнішчалі яшчэ мінулай восенню па загаду ўпаўнаважанага Адміністрацыі. Пеўні сваімі наскокамі на курэй зневажалі яго годнасць. Расчыніліся дзверы ў хатцы, у якой чатыры сцяны былі аклеены партрэтамі Генерала, і выйшаў на двор малады чалавек у каротkіх, зашнураваных на халявах, цяжкіх ботах і ў пярэстай вайсковай адзежыне. Ён быў без шапкі і ў руках трымаў паўпусты рэчмяшок. Агледзеўшыся па баках, нібыта баючыся чагосьці, затрымаўся на ганку. Ззаду за ім у сенцах стаялі бабулька і дзед, якія ўсхліпвалі, панура гледзячы яму ў спіну. Аднак Алесь іх быццам не заўважаў. Думкі былі заняты іншым, больш далёкім, а не старымі, якіх ён паспрабуе неўзабаве выкінуць з памяці. Ён развітваўся з гэтай хатай, дзе яму цесна, не хапала паветра, дзе ён быў скаваны сценамі, як ланцугамі. Ужо зразумеў, куды кіравацца, дарогу вызначыў. Якніяк усе дарогі ідуць у сталіцу. Туды, да Генерала, што, пэўна, даўно чакае яго, каб даручыць нешта незвычайнае, а галоўнае, бачыць побач з сабой. Яму зараз непатрэбна нічога. Усё, што неабходна для жыцця, ён знойдзе дарогаю. Навокал вёскі, гарады, і там людзі, у якіх ёсць сала, бульба, хлеб. Хіба, можа, — пабег яго позірк па двары, — адкруціць гэтай астатняй курыцы галаву і ўзяць у рэчмяшок? Дзе-небудзь у лесе на вогнішчы ён прыгатуе сабе смачнае мяса. Але навошта мне гэтая курыца, якая крычыць, нібы дурная. Ёй хочацца несці яйкі, але пеўня няма. Прывыкне, дык і сама сябе абслужыць; дысцыпліна ёсць дысцыпліна. І слова Генерала — закон.

Спераду праз дрэвы ліліся сонечныя промні і нібы клікалі яго да сябе, паказвалі яму шлях, па якім трэба было ісці. І ён, больш не затрымліваючыся, хоць і чуў ціхі плач старых, шырокім рашучым крокам выйшаў на вуліцу. Навошта нарадзіўся ён на гэтай зямлі? Няўжо адно, каб сядзець у задрыпанай хаце, нюхаць, як смярдзяць старыя? Ён жыве, каб служыць Генералу, быць аддданым яму і знішчаць кожнага, хто ўздумае нават вокам кепска зірнуць хоць на ягоны партрэт. Мо Бог і сабраў па кавалачку, па пясчынцы, па крошельцы, але ён недзе вельмі далёка, так далёка, што можна яго і забыць. Навошта помніць таго, каго няма побач, тлуміць сабе нікчэмным галаву. Думай пра таго, хто побач з табою, з кім ідзеш у змаганні і каго абараняеш. О, мой любы Генерал!

Алесь ішоў размашыста, нягледзячы па баках, аднак адчуваючы раз-пораз нейкія позіркі, што выстрэльвалі па ім злева, справа, з-пад кустоў і з-за дрэў. Нават, здалося, з гнілой рачулкі, якая брылася краем вёскі, на яго надта ўважліва нехта глядзеў. І гэтыя вочы былі ў вадзе, у двух кроках ад берага. Толькі ступі па вадзе, парослай там-сям зялёным густым жабаціннем, — і патрапіш на галаву, ненавісную, гідкую. Каб было чым стрэліць, дык і пальнуў бы.

На пагорку за вёскаю Алесь спыніўся. Незразумелая сіла, нябачная яму і таму страшная, цягнула яго назад, туды, у хатку, дзе засталіся дзед з бабуляю. Калі ён яшчэ пастаіць хоць хвілінку, ногі наўрад ці здолеюць зрушыць з гэтага заклятага месца. Трэба ісці. Так сказаў сабе і зрабіў, вырашыўшы нідзе пакуль не спыняцца, а тупаць і тупаць, тым больш што наперадзе зоркаю ззяў партрэт таго, каго ён ужо моцна любіў.

Спакойна і разважна, каб не траціць дарэмна сваю сілу, Алесь ішоў па сцяжынцы, а не па брукаванцы, пад шатамі дрэў, хаваючыся ад сонечных промняў, бо ў паходзе яны былі непатрэбны. Толькі дарэмна пад імі выйшла б з яго частка сілы, ягонай моцы, што столькі часу назапашваў. Сілу трэба берагчы, яе нельга абы-як траціць, з ёю ён пойдзе служыць Генералу. Хай Божа дапаможа! Алесь засмяяўся і здзекліва азірнуўся навокал, нібыта чакаючы, што нехта зараз знойдзецца, каб паспрачацца з ім альбо нават пабіцца. І гэта было б здорава... Але ўсё яшчэ наперадзе: ягоная дарога толькі пачынаецца.

Хутка за дрэвамі знікла вёска, і ён, здалося, ужо забыўся пра яе. У галаве аніякіх думак. А навошта яны? Каб толькі шкодзіць?! Чым менш думаеш, тым лепш ісці, спакойна, ні пра што не клапоцячыся. А пра што яму клапаціцца? Найбольшы клопат — гэта каб у жываце не было пуста...

...Нейкае незвычайнае шчасце адольвае ўсю маю істоту, маё цела, нібы я — сціснутая спружына. Мне так хочацца з кім-небудзь пабіцца, адчуць асалоду ад таго, што з некага пацячэ кроў і ён будзе плакаць. Проста невыносна цярпець гэты сверб. Хоць бы хто зараз спаткаўся на дарозе! Але, на жаль, не бачна нікога. Як вымерлі ўсе навокал ці закапаліся ў зямлю. Альбо рыхтуюцца да вайны, а я нават пра гэта не ведаю. Іду сабе быццам гуляючы, а кроў ува мне кіпіць: злосці маёй патрэбна выйсце. Павольна ўжо не магу ісці і пачынаю бегчы, ускінуўшы на плечы рэчмяшок. Бягу лёгка, пераскокваючы ямкі, магчыма, нават акопіны, якія нехта падрыхтаваў тут для баявых дзеянняў. Хоць бы адзін чалавек спаткаўся мне, я б яго навучыў ваяваць, абараняць гэтую зямлю. Не, больш не вытрымаю. Я з размаху кідаюся на кусты, якіх шмат расце абапал дарогі, і знішчаю, трушчу іх, выломваючы з карэннем. Спатыкаюся і падаю, пры гэтым ударыўшыся галавою аб рэшткі пня. Нібы звон ідзе па маім целе і ўслед за ім — боль. Нешта мокрае трапляе на вочы, цячэ па твары. Мацаю рукою і бачу, што гэта — кроў. Я паранены, і мне адразу робіцца лягчэй. У мяне адчуванне, быццам выйграў сапраўдны бой у сапраўднага праціўніка.

Ляжу трошкі на зямлі, потым падымаюся ў вельмі добрым настроі. Іду далей, мне яшчэ ісці і ісці. Хоць, калі захачу, буду ў сталіцы хутка. Проста імгненна. Я чую: недзе зусім недалёка гудуць самалёты. Няўжо адзін з іх не даваязе мяне туды, куды імкнуся? Але спяшацца не буду; хачу агледзецца. Чуваць нейчыя галасы, людзі ідуць мне насустрач. Для іх бою не будзе: позна. Дарэмна, было б ім што ўспомніць. Размінуся з імі, і — далей, далей.

Вось з-за крывога, як інвалід, дуба высоўваецца хударлявы, зарослы паўсівой шчэццю мужчына, які цягне за сабою нечым напакаваны стары шэры мех. Яму дапамагае невысокая, у блакітнай хустачцы, жанчына. Я збліжаюся з імі, замарудзіўшы крок, пільна ўзіраюся ў іхнія твары. Яны шэрыя і пакорлівыя, бы ў пабітых сабак. Хоць я даўно і не бачыў сабак: іх пераlавілі, каб прыгатаваць лекі ад сухот. Частку выкарыстоўваюць на кансервы, якія любяць есці нібыта кітайцы і плацяць за іх шмат грошай. (Гэта я вычытаў у газеце, што дзед прынёс з пошты).

Мужчына з жанчынаю, убачыўшы мяне, адкінулі ад сябе мех і сталі ўбаку пад дубам. Схіліўшы галовы, нечага чакалі, мабыць, меркавалі атрымаць які падарунак? Усе хочуць ад мяне падарункаў, — а хто дасць мне? І гэта дужа не спадабалася мне, і я зазлаваў. Доўга не разважаючы, пляснуў далонню гэтага чалавека, — не раздражняй сваім панылым выглядам! Час быць на вайне альбо ўзводзіць пазіцыі супраць праціўніка, а мужчына валачэ нейкі мех. Мусіць, украў. Толькі ў каго? Безумоўна, у нашага Генерала. Нават калі ўкраў у суседа, дык усё роўна ў Генерала. Бо ў гэтай краіне зямля, трава, паветра, вада пад ягоным пільным кантролем.

Пасля таго, як я стукнуў мужчыну па твары, ён мацней сагнуў спіну. Пачаў мне дзякаваць і прасіць, каб я пабіў яго яшчэ.

— Бачу па вопратцы, што верна служыце Генералу. Дайце мне па галаве і тады я стану таксама да яго бліжэй, — гэты чалавек так умольна глядзеў мне ў вочы, што знікла ўсялякае жаданне нават датыкацца да непаголенага твару. Ягоная жанчына апусцілася на левае калена, толькі чаму не на правае, — мне было незразумела, — і скінула з сябе хустачку. Надзьмула свае падвялыя вусны і нібы нахілілася да мяне.

— Калі вам трэба мая жонка, дык можаце часова пакарыстацца, — сказаў мужчына, не выпростваючы спіну. Мне гэта стала смешна. Навошта мне карыстацца ягонай жонкаю?! Калі б была бойка і трэба было паднесці патронаў, дык і пакарыстаўся б. Ці зварыць мне бульбы... Навошта яна мне цяпер: я іду ў паход, дапамога мне нічыя непатрэбна.

Паглядзеў яшчэ раз на гэтых дзіўных людзей і раптам захацелася праверыць, ці любяць яны нашага Генерала. Рашэнне ў мяне выспела адразу. Дастаў з рэчмяшка партрэт Генерала, разгарнуў яго і загадаў пацалаваць. Відаць было, што любяць, бо ад радасці і любові па твары ажно слёзы пацяклі. Я на памяць падарыў ім партрэт і рушыў па дарозе. Можна было гэтых людзей ужо забыць. Няхай цягнуць свой мех дамоў. Толькі вось дарма не праверыў: а калі ўсё-ткі штосьці ўкралі? Не вяртацца ж мне назад, хадзіць па кустах і шукаць іхні мех, які яны, напэўна ж, ужо схавалі, баючыся мяне. Нейкі хворы гэты мужчына: прапанаваў пакарыстацца ягонай жонкаю. Яна ж не машына і не самалёт, ледзьве мех цягнула. Мне стала смешна, калі я ўявіў, што сяджу ў яе на плячах, і яна мяне вязе. Дык яна і крок не зробіць — ёй бы як дахаты дабрацца.

Хутка я быў на шашы. Прайшоў мо кіламетр і спыніўся ўражаны. Высока ў паветры калыхаўся партрэт нашага Генерала. Пад ім чырвонымі літарамі было пазначана, што гэтая шаша названа ў яго гонар. Ад гэтага цуду ў мяне перацяла дыханне, і мне захацелася, каб былі крылы, самому ўзняцца ў паветра і трымаць у руках партрэт. Але я не птушка і не магу лятаць. Было б добра мець крылы-складанчыкі, з імі я, нібы шуляк, зверху ўглядаўся б на зямлю, удалячынь, і ніхто лепш за мяне не змог бы пільнаваць шашу, лес і нават прастору ад заходніх чужынцаў. Дый ад сваіх, якія часам горш за ворага замежнага. Ворагі найчасцей сярод нас, іх толькі патрэбна дачасна знайсці і знішчыць. Гэта не так проста, як здаецца. Зрэшты, для большага шчасця і спакою калі хто і нявінны трапіць пад руку, — нічога. Іншыя пабаяцца нават кепска паглядзець і падумаць, не кажучы, каб што зрабіць. Вось такая думка раптам узнікла ў маёй галаве, і я згаджаюся з ёй. Хоць і не разумею, як яна ўзнікла там. Я ж загадаў сабе ні пра што не думаць, не сумнявацца. Няйнакш зноў гэты сонечны прамень імкнецца паўплываць на мяне, стаць маім гаспадаром, шэпча ў патыліцу, асаджвае ў ёй цяжар. Ён прымушае ўскочыць з каменя, на якім сяджу, і робіць усё маё цела напружаным. Я прыслухоўваюся: аднекуль нарастае пакуль ледзь чутны гул. Ён набліжаецца хутка, мае вушы пачынаюць адчуваць, як дрыжыць паветра. Яно вагаецца так, быццам вось-вось выплыве з-за даляглялду танкавая калона, з якою мне давядзецца прыняць бой. Дапамогі ніадкуль няма і не будзе, але я гатовы. Шкада, ніякай зброі ў маіх руках. І ўсё роўна не страшна. Я хаваюся за дрэва і чакаю, ухапіўшы ў рукі ніштаваты камень. Калі паспрыяе выпадак і можна будзе залезці ў пярэдні танк, я ўскочу на яго. Праз верхнія дзверцы-люк патраплю ў сярэдзіну і знішчу ўсіх, хто там будзе. Мне на гэта шмат часу не трэба. Абы адчуць у руках зброю, хапае падрыхтоўкі і вопыту. Пасля з танкавай гарматы знішчу астатнія машыны. Я ўяўляю, як яны гараць, нібы копы саломы.

Яшчэ трохі часу і з-за пагорка выпаўзае чорная шырокая машына. У мяне зусім псуецца настрой, таму што гэта не танк, а тым больш не калона. Нейкая тарахтайка-грузавік з цяжкім гулам, бы задыхваючыся ад недахопу паветра, цягнецца па шашы. Ён ужо блізка ад мяне, і я бачу таго, хто ім кіруе. Мабыць, зусім нікчэмны чалавек. Наўрад ці любіць нашага Генерала. Я спыню гэты грузавік і праверу вадзіцеля. Махаю рукою раз-другі — не спыняецца. Павялічвае хуткасць. Гэта мяне абурае дарэшты, і я, паклаўшы камень у рэчмяшок, бягу ўслед за ім. Не варта гэтак са мною жартаваць, таму што даганяю грузавік. З задавальненнем адчуваючы моц у руках, чапляюся за машыну. Праз задняе шкло мне відаць, як мітусіцца ў сваёй кабіне вадзіцель. Махае, азіраючыся назад, нейкай жалезінай. Навошта гэта ён робіць? Толькі яшчэ больш раздражняе мяне. Я ўжо не вагаюся і, выхапіўшы камень з рэчмяшка, іду ў наступ на кабіну. Мне хапіла некалькі хвілін, каб быць у ёй. Вадзіцелю нічога не застаецца, як спыніцца. Я, раз'юшаны ягонай непаслухмянасцю, б'ю па твары. Ад маіх удараў галава матляецца ў бакі, быццам сланечнік пад моцным ветрам. І гэты чалавек плача, скуголячы, як недарэзаны для кітайскіх кансерваў сабака. Мяне спыняе толькі тое, што на пярэднім шкле кабіны каляровы, мабыць, аднекуль выразаны партрэт Генерала. Ён прыемна ўсміхаецца, нібыта дзякуючы мне за службу. Я гатовы спыніць усе машыны на шашы, толькі б парадавацца, убачыўшы на іх партрэты Генерала. Гэта ж пакуль даеду да сталіцы, колькі змагу зрабіць, паслужыць чалавеку, за якога аддам сваё жыццё.

— Кратай! — загадваю вадзіцелю і ўсаджваюся побач з ім. Гэты дзівак, як сапсаваная цацка, доўга мармыча: маўляў, дзякуй, што спыніў яго і даў па мордзе, якая расчырванелася і апухла ад маёй дужай далоні. І калі я хачу, дык магу яшчэ колькі разоў стукнуць. За гэта ён будзе мне надта ўдзячны, бо поўха асвятляе галаву і згадвае быць належным грамадзянінам Тапінамбура. Па яго словах атрымлівалася, што ў тапінамбурцаў даўняя звычка падстаўляць усім жадаючым свае твары для біцця. Нават колькі гадоў ужо сюды ездзяць турысты з-за мяжы, каб, заплаціўшы ў банк на Генералаў рахунак, папрактыкавацца ў лупцоўцы па мордзе.

— Цяпер яна ў мяне надта загартаваная, — сказаў вадзіцель грузавіка. — Колькі яе ні бі — і ад гэтага толькі задавальненне. Нібы з'еў ладны кавалак хлеба з пазалеташнім з'ялчэлым салам, пра якое забыў. Дый мы есці і не вельмі любім. Нам абы паглядзець часам па тэлевізару нашага Генерала. Цела ад аднаго яго выгляду поўніцца дужасцю, што і есці не трэба...

*(Працягнуты стар. 12)*

## ЕЛЬСКІХ ПАДТРЫМАЎ "ПАЛІФАКТ"

Другі зборнік з серыі "Музыка сям'і Ельскіх" выйшаў пад грыфам Нацыянальнага тэатральна-канцэртнага аб'яднання "Беларуская Капэла". У ім — творы для скрыпкі і фартэпіяна: чатыры рознахарактарныя п'есы Міхала Ельскага, яго ж Другі канцэрт для скрыпкі з аркестрам (у пераладжэнні для скрыпкі ды фартэпіяна) і "Паланез" Караля Ельскага. Музычную рэдакцыю ажыццявілі незабыўны беларускі скрыпач-віртуоз Леў Гарэлік ды вядомая піяністка, спанатраная ў канцэртмайстарскім мастацтве, Ганна Каржанеўская. (Яна ды сп. Яўген Паплаўскі пазначаны ў гэтай прыгожай нотнай кніжцы і як укладальнікі). Прыемна, што скрыпічныя партыі прадстаўленых у зборніку твораў надрукаваныя яшчэ і асобным сшыткам, які змешчаны ў адмысловай "кішэньцы", утворанай проста з супервокладкі. Плён працы музыкантаў-адраджэнцаў аформіўся ў сапраўдны ўзор паліграфічнага мастацтва. І здарылася гэта дзякуючы дыхтоўнай, пра што можна меркаваць паводле выніку, фінансавай падтрымцы ТАА "Паліфакт", якое фундавала і першае выданне з серыі "Музыка сям'і Ельскіх" — зборнік фартэпіянных твораў.

С. Б.

## ... І ПАШТУКАРЫЛІ, І БАГОЎ УСЛАВІЛІ

Не паспелі ў Берасці ахалонуць жарсці Міжнароднага фэсту "Белая вежа-96", як адзін з яго арганізатараў — Берасцейскі абласны тэатр лялек — як кажуць, не марудзячы, гасцінна запрашае на чарговы тэатральны сезон. 26 і 27 кастрычніка пашанотнай публіцы былі прапанаваныя пастаноўкі "Дрэва багоў" і "Штукары". Аўтар абедзвюх п'ес — драматург Ігар Сідарук, які ўжо некалькі гадоў працуе ў БТЛ, піша шмат і плённа ўвогуле для тэатраў лялек. Пастаноўка "Дрэва багоў", якую ажыццявіў Вітаўтас Грыгалюнас, разыграна ў жанры містэрыі, дзе спрабуецца выразнымі тэатральнымі сродкамі раскрыць-данесці да сучаснага гледача складаны вобраз — Дрэва Жыцця... Мастак — Валеры Рачкоўскі, фундатар спектакля — Беларускі фонд Сораса. Паказ яго можна лічыць прэм'ерным, таму што ўпершыню на публіку ды крытыку ён быў вынесены на фестывалі.

Другая работа — "Штукары" ў пастаноўцы галоўнага рэжысёра тэатра Зміцера Нуянзіна (мастак В. Рачкоўскі) — зазнала некаторыя змены ў параўнанні з першай рэдакцыяй, і таму таксама можа лічыцца калі не новым творам, дык абноўленым. У ім паўстаюць рэальныя персанажы мінулага стагоддзя, берасцейскія штукары-скамарохі Ціт, Гарман і Гарасім ды апавядаюць светлую, крыху сумную казку пра Алёнку ды Янку, што хацелі знайсці сваё шчасце, але знайшоўся прагны ахвотнік да дзявочае красы — люты злы Князь... Урэшце, раскрываць змест лялечных спектакляў — няўдзячная справа; лепей пабачыць усё гэтае багацце фарбаў, музыкі, дзеі, акцёрскага майстэрства на ўласныя вочы...

І. Х.

## СПЕЦВЫПУСК "ТЭАТРАЛЬНАЙ ТВОРЧАСЦІ"

Чарговы, пяты нумар часопіса "Тэатральная творчасць" прысвечаны 70-годдзю Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа. Як вядома, праслаўлены сцэнічны калектыў бярэ пачатак з 1926 года, калі быў створаны ў Віцебску Другі беларускі дзяржаўны тэатр (БДТ-2). 21 снежня 1944 года яму прысвоілі імя Якуба Коласа, а ў 1977-м — званне Акадэмічнага. Шлях, пройдзены коласаўцамі, падрабязна прасочвае ў артыкуле "З пройдзеных дарог" доктар мастацтвазнаўства А. Сабалеўскі. Ім жа складзены "Рэпертуар тэатра", у якім па гадах пазначаны ўсе пастаноўкі за 70 гадоў. Уяўленне аб тым, як шмат зроблена коласаўцамі, падмацоўваюць матэрыялы, аб'яднаныя загалоўкам "Этапы творчасці". Прыводзіцца вытрымкі з рэцэнзій на найбольш значныя работы (у тым ліку і з лімаўскіх публікацый), змешчаны шматлікія здымкі сцэн са спектакляў, а таксама партрэты акцёраў.

Адна з першых работ тэатра — спектакль па народнай драме "Цар Максіміліян", якую для сцэны апрацаваў М. Міцкевіч паводле тэксту А. Рэмізава. З тэкстам гэтага твора і можна пазнаёміцца ў нумары, а папярэднічае яму ўступнае слова Д. Стэльмах "Першы крок". Змешчаны і вершы М. Грамыкі "Тэатру" ("У дзень адчынення Беларускага 2-га дзяржаўнага тэатра"), упершыню апублікаваны ў газеце "Савецкая Беларусь" 21 лістапада 1926 года.

Тэлебачанне

# ДА САМАГА ДУШЭЎНАГА ПРАЕКТА

Рэкламныя паўзы Беларускага тэлебачання ярка адбілі ў нашай удзячнай памяці салдаціка з супам са свежае гародніны. Архімед (проста ў ванне), Ньютан (проста пад яблыняй) і Эдысон (разам са сваёй лямпачкай) для нас адкрывалі сокі і беларускіх акцёраў у рэкламе. Калі па-беларуску загаварылі, дакладней, зашапталі пра "Галіну Бланку" і каханне з першай лыжкі, падумалася, што толькі з глыбокіх нацыянальных пачуццяў беларусы спажывць яе прадукты як лепшыя нацыянальныя стравы. Рэклама! У беларускім варыянце ёй пашэнціла на аўтара. Які і ёй самой шчыра верыць, і верыць у яе: Аляксандр ШАВЯЛЕВІЧ, дырэктар і рэжысёр рэкламнага агенцтва "Студыя Крынь".

Утварэнне студыі, яшчэ не рэкламнага агенцтва ў сённяшнім разуменні, мела няшмат дачынення да мастацтва (а існаванне мастацтва рэкламы, бадай, аспрэчваць ніхто не наважыцца). Знаны і адметны беларускі рэжысёр Віктар Шавялевіч (Шавялевіч-старэйшы), паводле Шавялевіча-малодшага, здымаў свайго Вітаўта (вядомую трылогію), малодшы меў намер дапамагчы бацьку грашыма, разам з партнёрам арганізаваў студыю і... стаў рабіць... Што ўмеў. Як умеў.

Умеў ён перадусім добра вучыцца ў школе. Адметна гуляць у гандбол. Няблага адпавядаць інстытуцкім патрабаванням, пры гэтым, арыентуючыся на замежныя мовы, вучыцца трапіў на трэнера. Бо ўласны трэнер, бачыце, сказаў, што Саша Шавялевіч патрапіць выйграць алімпіяду ў Барселоне. Як было не паверыць трэнеру? Той самай рэкаме... На самай справе шлях Аляксандра Шавялевіча ў рэжысёры (у прафесійнікі) паслядоўны і, відаць, наканаваны. Гадаваўся ў сям'і, дзе бацькі мелі адну — рэжысёрскую прафесію, працавалі на адным — Беларускім тэлебачанні, дома, натуральна, размаўлялі больш за ўсё на адну тэму — пра работу. У сем year ведаў рэжысёра Міхалкова. У дзесяць глядзеў фільмы Таркоўскага, але не з-за таго, што імі захапляліся дарослыя. Сашу яны проста падабаліся — без тлумачэнняў...

...Працаваць на студыі "Крынь" мусілі вучыцца... падчас работы. Вядома, сампершым у здымках рэкламы адзначыўся Шавялевіч-старэйшы. Як самы дасведчаны і самы абазнаны. У рэжысуры. Але Шавялевіч-малодшы хутка ўграз у ім у творчае непаразуменне, бо сам рабіў бы ўсё па-іншаму. І — мусіў...

Першай рэкламнай прадукцыяй "Крыні" зрабіліся рэкламныя ролікі; самы першы ролік знялі (бясплатна, дарэчы) для "Дайновы". Потым — для фінансавай групы "Рамас" (з ейным удзелам наша дзятва суперажывала чарапашкам-ніндзям), але ў эфір ролікі не пайшлі, бо гаворка ў іх ішла пра акцыі, якія порстка нешта там страцілі (выснова Аляксандра: і ў рэкламе ёсць сваё вечнае і сваё хуткаплыннае). А потым да "Крыні" звярнулася фірма АТЕКС, і ўжо больш за два гады студыя, цяпер агенцтва, вядзе яе рэкламную кампанію. Ад тэлеролікаў да візітовак. Ад салдаціка з супам да адмысловай камп'ютэрнай мультыплікацыі. Як не самую ўдалую згадваюць у "Крыні" працу з "Хімснабам". Як адметны досвед — з "Белінкамтрастам" (ролік з зярняткам, якое кладзецца ў зямлю і на нашых вачах робіцца каласком). Як узор рэкламнай дасканаласці — з "Таірам" і здымкі з Фарадой. Як прыклад глыбокага задавальнення з боку партнёра — "Галіну Бланку".

Першае, што выйграла "Студыя Крынь", — гэта апытанне, замоўленае газетай "Имя": рэйтынг беларускай рэкламы за 1995 год. Занялі першае месца за лепшы сцэнарый ("Суп са свежае гародніны") і сам ролік рэкламадаўцы назвалі першым. Апытваліся не толькі вытворцы рэкламы, але і фірмы, і вы можаце сабе ўявіць, што маглі вярзці, прабачце, казаць іх прадстаўнікі пра канкурэнтаў! Таму перамога сталася адметнаю. Потым на беларускім фестывалі рэкламы "Золотой крючок" ("Залаты зазубень") зававялі прыз у намінацыі "сцэнарная распрацоўка" (менавіта як рэжысёр Аляксандр Шавялевіч мяркуе, што сцэнарый — найгалоўнае ў рэкламным роліку). Пасля гучных тутэйшых перамог "Крынь" дазволіла сабе ўсім складам з'ездзіць у Маскву, на пяты Маскоўскі міжнародны фестываль рэкламы. І нават прывезці з сабою дзесяць сваіх ролікаў. Не выйгралі нічога, але выйшлі ў фінал па некалькіх раздзелах! Затое пераznаёміліся з усімі буйнымі маскоўскімі рэкламнымі агенцтвамі, пасябравалі з "Аўрорай", з Бубновым, з Грымавым, пачалі ліставацца, факсавацца, перазвоньвацца...

Па прыездзе з Масквы "Студыя Крынь" стала працаваць як крэатыўнае рэкламнае агенцтва. Значыць, займацца, між усім, распрацоўкаю і ўвасабленнем ідэй. Паміж ідэяй рэкламы, ідэяй рэкламнай кампаніі ды тэлевізійнымі ролікамі розніца адчувальная? За сёлетні год "Крынь" атрымала процьму заказаў і некалькі новых кліентаў. Такіх, якімі варта ганарыцца. Напрыклад, Мінскі гуртовы (аптовы) рынак (ягонае будаўніцтва і рэкламаванне фінансуецца Еўрапейскім банкам рэканструкцыі і развіцця). "Крынь" выйграла цэлы конкурс за права займацца рэкламнай кампаніяй такога салідната кліента, зрэшты, як выйграла і конкурс (тэндэр) знакамітай фірмы "Філіп Морыс". "Крынь" натуе на стужкі кожны крок гэтай фірмы ў Беларусі. Шмат чаму вучыцца, — цяжкая работа, хоць і цікавая. Адкрыла для сябе "Крынь" і гомельская кандытарская фабрыка "Спартак". За сёлетні год рэкламнае агенцтва пачулася ўпэўнена і нават моцна. Асаблівасць яго ў тым, што яно не бярэ і не мае ніякіх пазык ды крэдытаў. На ўсё зароблена самастойна. (Ёсць агенцтвы, якія жывуць толькі на крэдыты). Асаблівасць агенцтва і ў тым, што, напрыклад, адметныя стужкі пра "Харошкі" або "Чысты голас", тэлегульні або фільм пра ДДТ з Шаўчуком — таксама ейная, студыйная дзейнасць.

Музыка

# СУР'ЁЗНАЕ І ЖАРТОЎНАЕ "КРЭСІВА"

***Сярод прафесійных і самадзейных калектываў, якія прапагандуюць беларускі музычны фальклор, гурт "Крэсіва" ўяўляецца мне нейкай экзатычнай кветкай з дзівосным водарам, які сабраны, здаецца, з палёў усяго свету і разам з тым шчымліва нагадвае пах роднай зямлі. Не выклікае сумневу арыгінальнасць і непадабенства гурта ні на які іншы фальклорны калектыў. Праяўляецца гэта і ў рэпертуары, і ў апрацоўках, і ў выканаўчай манеры.***

***Гурт "Крэсіва" існуе крыху больш за 5 гадоў. Стваральнікам і кіраўніком калектыву, яго ж артыстам з'яўляецца Анатоль КАЗАК. З ім — наша размова.***

**— Анатоль, дык з чаго пачалося захапленне фальклорам?**

— Нарадзіўся я ў Брэсцкай вобласці, жылі мы на хутары. Мае сёстры працавалі на калгаснай ферме і ў вольную часіну збіраліся і спявалі. Чамусьці з той пары я запомніў гучанне народнай тэрцыі ў шматгалоссі. Потым пераехалі з хутара ў вёску, я пайшоў у школу. Затым падаўся ў Мінск. Спачатку думаў, што буду настаўнікам — захапляўся беларускай і рускай літаратурай. калі ў мяне цяпер пытаюцца, як я стаў музыкантам, мае артысты адказваюць: "Пайшоў у лес па грыбы і пасля гэтага стаў артыстам". Хацеў паступаць у Брэсцкае музычнае вучылішча на аддзяленне харавога дырыжыравання, але спазніўся. А ў тым кошыку, з якім я ў лес хадзіў, была газета, і ў ёй я прачытаў аб'яву пра набор у Мінскае педагагічнае вучылішча на аддзяленне культасветработы. Прыехаў у Мінск, паступіў у вучылішча, скончыў яго. Працаваў у Нясвіжскім раёне, потым пайшоў у армію, там быў хормайстрам у ансамблі песні і танца "Тачанка". Пасля арміі вярнуўся на радзіму, працаваў у сельскім клубе, рэстаране, потым зноў паехаў у Мінск: хацелася займацца музыкай. Тады і не думаў, што фальклор стане асноўнай часткай майго жыцця.

Спачатку я падаўся ў філармонію на праслухоўванне ў эстрадную брыгаду. Праслухалі і сказалі прыехаць яшчэ. Вярнуўся дамоў, зноў стаў працаваць у клубе, мне нават 50 рублёў даплачвалі за добрую працу. Але ўсё роўна хацелася вучыцца. Я спрабаваў паступіць у Варонежскі інстытут мастацтваў на аддзяленне спеваў і музыкі, потым у Мінскае музычнае вучылішча. З другога разу мне ўдалося паступіць туды — на аддзяленне харавога дырыжыравання, закончыў яго і прыйшоў у Капэлу імя Шырмы артыстам хору.

Яшчэ ў вучылішчы задумаў стварыць вакальную групу, асновай рэпертуару якой мусіў стаць фальклор. Такі ансамбль быў створаны спачатку ў вучылішчы, потым у шырмаўскай капэле. Праўда, яшчэ да капэлы я папрацаваў у тэатры музычнай камедыі і там таксама стварыў аналагічную групу. Калі я цяпер усё гэта згадваю, разумею, што ўжо ў наш час ніхто б не змог працаваць бясплатна, як тады, на энтузіязме. Да гэтай пары здзіўляюся, як людзі да мяне тады ішлі, хаця магу сказаць, што вакол мяне заўсёды збіраюцца аднадумцы.

Мінуў час, і хаця было складана, але ў філармоніі быў створаны калектыў, пра які я марыў.

**— І колькі ж часу пайшло на тое, каб "прабіць" гэтую творчую адзінку?**

— Шмат. Многа праблем было. Мяне ж ніхто ў Мінску не ведаў, акрамя тых людзей, з якімі я працаваў. Ці ж мог я прыйсці ў Міністэрства культуры і сказаць: "Я — Казак, таленавіты музыкант, дайце мне калектыў"? Хто я такі? Ды ніхто... Але ў маім жыцці сустракаюцца добрыя людзі, нават і не музыканты, якія дапамагаюць. Тады мне дапамог паляшук Мікола Шаляговіч. Праўда, новы калектыў праіснаваў толькі паўгода. У той час я рабіў апрацоўкі народных песень для "Купалінкі", запісалі з імі пласцінку на фірме "Мелодия", але мара пра свой калектыў мяне не пакідала.

Ну, і так атрымалася, што нас "паклікаў Чарнобыль". Крыху больш за 5 гадоў таму пры фондзе "Дзеці Чарнобыля" ўтварыўся ансамбль "Крэсіва", і пачалася праца.

**— Які склад вашага ансамбля?**

— Гэта 7—8 чалавек, змешаны склад. Я лічу, што для выканання народнай музыкі такі склад самы аптымальны. У асноўным гэта вакалісты. Але мне цікава працаваць з людзьмі, якія не маюць спецыяльнай вакальнай адукацыі, заўсёды цікава чалавека раскрываць. У нас працуюць харавікі, педагогі...

Віншуем!

# Уладзіміру ЯКУТАВУ — 70

Уладзімір Дзмітрыевіч родам з вёскі Ранькава цяперашняга Ушацкага раёна (нарадзіўся 5 лістапада 1926 года). Прымаў удзел у барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі: у 1942—1944 гадах ваяваў у партызанскім атрадзе брыгады "Няўлоўныя", з 1944-га знаходзіўся ў дзеючай арміі. У 1945 годзе У. Якутаў быў паранены і дэмабілізаваўся.

Працаваў сакратаром Булаўскага сельсавета Полацкага раёна, а з 1946 па 1961 год жыў у Літве, быў сакратаром Швенгісняйскага валаснога камітэта камсамола, інструктарам, загадчыкам парткабінета райкома партыі. Скончыў юрыдычны факультэт Вільнюскага дзяржаўнага універсітэта імя Я. Капсукаса (1954).

У 1961 годзе У. Якутаў пераехаў у Мінск, працаваў адказным сакратаром таварыства "Веды" Ленінскага раёна, намеснікам дырэктара па культрабоце тэхнічнага вучылішча N 53, навуковым супрацоўнікам Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ. З 1973 года быў навуковым супрацоўнікам Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі. З сакавіка 1990 года — прэзідэнт культурна-творчай фірмы "Русь Белая". Кандыдат гістарычных навук.

У. Якутаў у сваёй творчасці (літаратурнай працай займаецца з 1962 года) перавагу аддае гістарычнай тэматыцы. Ён напісаў кнігі пра такіх знакамітых дзеячаў, як А.Чарвякоў, М. Галадзед, П. Машэраў, выдаў таксама зборнікі "Віхурны досвітак" (1983), "Всегда с Лениным" (1983), "Приговор века" (1990)...

З днём нараджэння, шаноўны Уладзімір Дзмітрыевіч! Далейшых Вам жыццёвых і творчых поспехаў!



Пераклады

# З СУЧАСНАЙ СЕРБСКАЙ ПАЭЗІІ

Мілорад ДЖУРЫЧ

## ДУШМАНЫ

**Наколькі яны ворагі нашы,**
**а наколькі мы іхнія?**

**Хто большы**
**ў страху і нянавісці?**

**Хіба наш і іхні розум —**
**смерць і толькі смерць?**

**Труны ўсім аднолькавых памераў,**
**на глыбіню магілы пядзі хапае.**

**Усе рэкі цякуць наперад,**
**але не насуперак любові.**
**Ні на што няздольныя ты і я,**
**пясок паверх нашай і іхняй чарназёміцы.**

**Непрыяцель — толькі слова,**
**Ўтворанае ад слова прыяцель.**

Джока СТОІЧЫЧ

## У ЛАБІРЫНТАХ СВЯДОМАСЦІ

**Я бачу народ,**
**супраць якога**
**вайну вядуць,**
**а ён пра гэта**
**не ведае зусім,**
**бачу спягі,**
**якія ўсхліпваюць.**
**Народзе,**
**хіба ж так можна,**
**дзецям раскайвацца**
**за падобнае.**

**А сам сабе кажу:**
**усё гэта зведана.**
**Пашукай толькі**
**ў закутах памяці —**
**нагадвае мёд,**
**пчалой прынесены**
**з апошняй кветкі.**

Любіца МІЛЕЦІЧ

## БЕЛАЯ ПТУШКА

**На белых крылах яна светлую таямніцу**
**Носіць скрозь мяккі пух лёгкага ветрыку.**
**Белым голасам яна белую вестку**
**Па складах дзеліць...**
**Пад ёю лунаюць краявіды белыя.**

**Ад голасу яе ўміг усё бялее,**
**І птушка, якой дагэтуль ведаць не хацелі,**
**У сімвал шчаслівая селіцца.**
**Птушка, якую рантам напраўду палюбілі,**
**Стала гэтак значнай і вечнай.**

**Птушка, якая не смела быць белай,**
**Пакуль чыстай белі не сустрэла.**

Мілаван АЛЕКСІЧ

## ПРОСЬБА

**прашу**
**каб нас не дзялілі**
**на белых і найбялейшых**
**наша кроў чырвоная**

**прашу**
**ў знямозе сілы**
**жыцця і маёмасці агульнай**

**прашу**
**наступнікам пладоў**
**летуценнікам абшараў**
**наваколлю чыстай расы (...)**

**прашу**
**каб не дзялілі**
**на белых і найбялейшых**
**наша кроў аднолькавая**

Слабадан ВУКАНАВІЧ

## МАЎЧАННЕ

**Дабрагоравы сыны: Вукан — чытач пісьмёнаў, Міоль — ахоўнік веры і Вуйміл — абаронца слабых, узвялі вежу.**

**Кожная старонка дадавала нешта да кнігі, кожная малітва станавілася надзеі спевам, а мячы ўпэўненасці надавалі.**

**Дабрагоравы ўладараць, народ слухае, незадаволеныя маўчаць.**

**Грэх неміласэрнасці, як хвароба, як чума, адолеў ваяроў.**

**Маўчанне — крэпасць нязгоды.**

Прэдраг БАГДАНАВІЧ-ЦІ

## АЛЕКСАНДРЫЙСКАЯ БІБЛІЯТЭКА

**Александрыйская бібліятэка**
**палыхае.**

**Бібліятэкары з полымя**
**ўголас вычытваюць кнігі.**

**Я, побач стоячы,**
**чужую творчасць занатоўваю.**

**Але і мне давядзецца ў агонь,**
**добра гэта ўсведамляю.**

Момір ЛАЗІЧ

●

**Маўчым,**
**да Бога рукі ўздымаем;**
**у іх Айчына**
**і сэрца,**
**ў плач загорнутае.**

*Пераклаў Іван ЧАРОТА*

# У МОРДУ — РАЗ, У МОРДУ — ДВА

*(Працяг. Пачатак на стар. 9)*

Мяне здзівіла, што зашмат ён гаворыць, замест таго, каб уважліва глядзець на дарогу. Але і на гэта ў яго быў адказ. Дарога ж імя Генерала. Дык машыны нібы самі імкнуцца па ёй ехаць. Ужо была ў газеце прапанова, каб канструктары зрабілі аўтамабілі самастойнымі. Колькі грошай зэканомяць. А вадзіцелі, мабыць, нічога, — вытрымаюць. Пакуль травы ў полі, на лугах, на сенажацях хапае.

Пра цікавыя рэчы гаманіў гэты чалавек. Здаецца, слухаў бы яго і слухаў. Толькі ўсё ж забалбатаў ён мяне. І я ўжо думаў зноў стукнуць яму па твары, каб змоўк, але ён успомніў, што зусім нядаўна наш Генерал падбухторыў-такі даіць свіней. І вучоныя згадзіліся з ім. Навошта губляць столькі каштоўнай прадукцыі. Я ж бачыў, як у вёсцы тыя зялёныя дзеці, пад'еўшы, бы парасяты, травы, скакалі ля адной вушастай свінні, спрабуючы пасмактаць у яе малака.

Аднак мала-памалу дарога знікала пад коламі грузавіка, і мы міналі вёскі, нейкія адзінокія буданы. Магчыма, вайсковыя ўмацаванні. Сустракаліся таксама машыны. Мне так і карцела іх спыніць і праверыць.

Сонца ўжо было ў зеніце, калі захацелася есці. У рэчмяшку пуста, і я вырашыў пашукаць што-небудзь з ежы ў кабіне. Вадзіцель мяне расчараваў: вяртаючыся назад з рэйса, ён звычайна не харчуецца. Часам пагрызе там-сям травы і больш яму не трэба. Усё роўна бясплатна сядзіць у машыне, азірае прыгожыя мясціны, дыхае чысцюткім паветрам. Дык па-добраму ён яшчэ павінен плаціць за гэтую працу, дзякуючы якой мацнее і мацнее, як абаронца Тапінамбура.

Нечакана нібы чорны цень прамільгнуў па твары вадзіцеля і знікла з вуснаў усмешка. Ён нават згорбіўся, зменшыўся за сваім абаранкам. І глядзеў толькі перад сабою, увесь напяўшыся, быццам сабраўся выскачыць праз шкло на дарогу, а мяне пакінуць усярэдзіне, каб я разам з машынаю ўляпіўся ў дрэва. І тут амаль перад намі вырас чорна-зялёны з чырвонымі пасамі будан. З-за нашай балбатні я не прыкмеціў, што мы пад'ехалі да яго.

Вадзіцель затармазіў, і я хацеў нешта яму сказаць. Не паспеў вымавіць слова, як з двух бакоў расчыніліся дзверцы ў кабіне. Я адчуў пад рабрынаю халодную цвёрдасць аўтаматнай рулі. Мяне выцягнулі на дарогу, нібы мех, напахнуты сенам, і ўваткнулі тварам у зямлю. Я прымусіў сябе не рэагаваць, таму што, калі выхаплю ў гэтых людзей аўтамат, — перастраляю ўсіх. Так на карачках я прастаяў немаведама колькі. Змог выпрастацца, калі падышоў начальнік будана.

— Хто такія? — спытаўся, агледзеўшы па чарзе мяне і вадзіцеля. — Куды і адкуль? Дакументы!

— А вы хто такія?! — нечакана для самога сябе агрызнуўся я. Мяне так і цягнула выхапіць аўтамат у яго з рук. У адказ начальнік будана даў мне з аднаго боку поўху, а яго памочнік — з другога.

— Не бачыш, сын сабакі і ката, што мы — першы заслон варты нашага Генерала!

Як пачуў я гэткае, дык мне захацелася яго абняць і пацалаваць. Хай яшчэ стукне мяне па мордзе, калі надта хоча.

— Пра што гаманілі ў дарозе? — дапытваўся начальнік будана. — Ці не было дрэнных слоў пра нашага Генерала? Ці не хаваеце што важнае ад варты?

Нічога асаблівага, здаецца, у машыне не было. Дый пра што мы гаманілі? Успаміналі добрым словам нашага Генерала. Толькі, можа, кепска, што ў вадзіцеля не было для мяне паесці, не паклапаціўся ён пра будучага абаронцу Тапінамбура.

— Як гэта? — ажно здзівіўся начальнік будана. — Зрабіць вобыск!

Некалькі байцоў варты, апранутых, як і я, у пярэстую жабінага колеру адзежыну, быццам па частках разабралі машыну. І знайшлі, знайшлі ўсё-ткі ў кузаве паміж дошкамі і кавалкамі тоўстага жалеза загорнутыя ў шэрую анучку хлеб, цыбуліну і трошкі сала. Начальнік будана пачырванеў, потым збялеў і ўжо шчоўкнуў аўтаматам, каб проста на месцы выканаць свой абавязак і застрэліць вадзіцеля, які ашукаў варту Генерала. Але ж перадумаў і вырашыў пакуль затрымаць парушальніка парадку, высветліць абставіны здабычы ім гэтай ежы.

— А ты прэч з вачэй! — грымнуў на мяне, і я, надта не перажываючы, пайшоў пехатою. Горад быў ужо недалёка. Мне відаць ягоныя дамы і, магчыма, вуліцы, па якіх неўзабаве пайду не простым чалавекам. Мяне там чакаюць, я там патрэбны. Я не памыляюся, таму што ад сонца, ад свежага гарадскога паветра ў мае жылы ўліваюцца новая энергія і пагарда да людзей, якія будуць ніжэй за мяне...

# ЯНКУ ЮХНАЎЦУ — 75

**Янка Юхнавец — адзін з найбольш вядомых прадстаўнікоў літаратуры беларускага замежжа. Нарадзіўся 3 лістапада 1921 года ў вёсцы Забродак цяперашняга Докшыцкага раёна. У 1944 годзе быў арыштаваны немцамі і вывезены ў Германію. Скончыў у 1949 годзе Вольны універсітэт у Мюнхене па спецыяльнасці заходнееўрапейскае права. З 1949 года жыве ў Злучаных Штатах Амерыкі.**

**Першыя творы Я. Юхнавец надрукаваў у эміграцыйных часопісах "Шыпшына" і "Сакавік" (1948). Аўтар кніг паэзіі "Шорах моўкнасці" (Нью-Йорк, 1955), "Новая Элегія" (Баварыя, 1964), "Калумбы" (Нью-Йорк, 1967), выбраных "Твораў" (Нью-Йорк, 1989—1990). Выдавецтва "Мастацкая літаратура" выпусціла ў серыі "Галасы беларускага замежжа" аднатомнік Я. Юхнаўца "Сны на чужыне", складзены А. Бяляцкім.**

**Віншуем Янку Змітравіча з 75-годдзем! Зычым яму здароўя, жыццёвых і творчых поспехаў!**

# ЯСНЕЙ ЗАЗЗЯЛІ "ДРУЦКІЯ ЗАРНІЦЫ"

**На Круглянштчыне нарадзіліся толькі два літаратары, якія сталі членамі Саюза пісьменнікаў: Васіль Бурносаў і Віктар Лужкоўскі. Але гэта не значыць, што тут няма пораху ў парахаўніцах. Аб тым, што ён ёсць, сведчыць кніга "Друцкія зарніцы", якая ўбачыла свет у Магілёўскай абласной друкарні. Зборнік твораў круглянскіх літаратараў носіць тую ж назву, што і літаратурнае аб'яднанне, якое працуе пры раённай газеце "Сельскае жыццё".**

**У кнізе — 12 аўтараў: метадыст цэнтральнай раённай бібліятэкі Віктар Бяляцкі, хатняя гаспадыня Зінаіда Мілешчанка, пенсіянер, былы спецыяліст сельскай гаспадаркі Уладзімір Цішуроў, настаўніца сярэдняй школы з вёскі Філатава Святлана Круцікава, пенсіянер, у мінулым будаўнік Уладзімір Кунцэвіч, яго калега Алесь Лапко, старшыня Круглянскага райсавета Дзмітрый Магдалёў, старшыня раённай арганізацыі таварыства інвалідаў Аляксандр Іваноў, бухгалтар Наталля Нікачук і 18-гадовая студэнтка Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта Марыя Сакалова. Розны ўзрост, розны вопыт у літаратуры. У адных ёсць публікацыі ў рэспубліканскіх газетах і часопісах, нават у калектыўных зборніках, у другіх — толькі ў раёнцы.**

**Выхад першага калектыўнага зборніка літаратараў Круглянштчыны стаў радаснай падзеяй не толькі для членаў "Друцкіх зарніц", але і для ўсяго раёна. Выпуску кнігі дапамог райвыканкам, які знайшоў грошы ў сваім сціплым бюджэце, каб заплаціць за работу друкарні, за паперу.**

**Своеасаблівым святам стала прэзентацыя кнігі. Падрыхтавала яе і правяла цэнтральная раённая бібліятэка. Залу раённага Дома культуры запоўнілі тыя, хто ў нашым абсурдным жыцці не страціў цікавасці да мастацкага слова. Літаратараў шчыра павіншаваў з выхадам кнігі намеснік старшыні райвыканкама Міхаіл Бяляеў. Цёплыя словы пра таленты Круглянштчыны сказаў рэдактар раённай газеты "Сельскае жыццё" Аляксандр Паўлаў, на плечы якога, дарэчы, лягла ўся арганізацыйныя работа па выданні кнігі. На літаратурнае свята прыехаў з Асіповіч рэдактар тамтэйшай раёнкі, заслужаны работнік культуры Беларусі Анатоль Тамашэўскі, які родам з Круглянштчыны, некалі працаваў тут і 30 гадоў назад стварыў літаратурнае аб'яднанне "Друцкія зарніцы". Ён выказаў сваю радасць з нагоды выхаду кнігі ў жартоўных вершах.**

**У зале гучалі вершы, песні, напісаныя мясцовымі самадзейнымі кампазітарамі Лідзіяй Галыгінай, Анатолем Бараноўскім, Мікалаем Куксянковым на вершы аўтараў зборніка. Спявалі іх удзельнікі мастацкай самадзейнасці бібліятэкі і раённага Дома культуры.**

**Іван ПЕХЦЕРАЎ**

# У ПАЛІГРАФІСТАЎ СВОЙ ЧАСОПІС

**А называецца ён проста і дакладна — "Полиграфия". Заснавальнікамі новага выдання сталі Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па друку і выдавецкае прадпрыемства "Хелман", але выданне часопіса фінансуецца не з дзяржаўнага бюджэту, і гэта сімптаматычна, паколькі сведчыць аб тым, што і ў недзяржаўных выдавецкіх структурах нямала людзей, якія цудоўна разумеюць, наколькі важна ў наш час не проста выпускаць тыя ці іншыя кнігі, а і клапаціцца, каб яны былі не горшыя за выданні, што з'яўляюцца ў іншых краінах. "Полиграфия" ж і стане свайго роду падручнікам у набыцці майстэрства, вопыту для паліграфістаў і выдаўцоў.**



# З ДНЁМ НАРАДЖЭННЯ, АЛЬМА- МАТЭР!

Ёсць юбілеі, якія тычацца калі не ўсіх, дык вельмі многіх. 75-годдзе Беларускага дзяржаўнага універсітэта — з шэрагу апошніх. І мы, лімаўцы, у пераважнай сваёй большасці можам сказаць, што ў розны час выйшлі з яго сцен. Хто вучыўся на факультэце журналістыкі, хто на філалагічным... Альма- матэр — так могуць сказаць пра БДУ і супрацоўнікі іншых выданняў — як дзяржаўных, так і не дзяржаўных. Сваім, родным лічаць яго і тыя, хто працуе на радыё, тэлебачанні, у выдавецтвах. А колькі педагогаў закончылі яго? Колькі навукоўцаў пачыналі свой шлях адсюль? Ды і сярод урачоў ёсць такія, хто ў свой час закончыў яго медыцынскі факультэт...

Пачатак БДУ быў пакладзены пастановай ЦВК БССР, прынятай 25 лютага 1919 года. Праўда, неўзабаве значная частка Беларусі была акупіравана польскімі войскамі, таму ўрачыстае адкрыццё універсітэта адбылося толькі 11 ліпеня 1921 года. Спачатку ў ім было ўсяго тры факультэты — рабочы, грамадскіх навук і медыцынскі. Рэктарам прызначылі вядомага вучонага У.Пічэту. Не без яго ініцыятывы ў новую вышэйшую навучальную ўстанову былі запрошаны для працы знакамітыя навукоўцы з Масквы, Петраграда, Кіева, іншых гарадоў.

З першых жа крокаў БДУ стаў сапраўднай кузняй нацыянальных кадраў. Станаўленне універсітэта супала з працэсамі беларусізацыі, а гэта не магло не стварыць адпаведную атмасферу. Трывала нацыянальны дух пасяліўся тут з 1922 года, калі быў створаны педагагічны факультэт з чатырма аддзяленнямі, сярод якіх — літаратурна-лінгвістычнае. Студэнтамі яго з'яўляліся ўчарашнія дзеці сялян і рабочых, выхадцы з правінцыі, якія не проста хацелі атрымаць належную адукацыю, а і працаваць у імя будучыні Беларусі. Многія з іх марылі стаць пісьменнікамі, пісалі вершы, апавяданні, займаліся крытыкай, цікавіліся тэатрам, мастацтвам.

Ва універсітэце падтрымлівалася ўсё беларускае. І не толькі чыталіся лекцыі, а часта арганізоўваліся сходы, праводзіліся канферэнцыі, дыспуты. Юнакі і дзяўчаты разам з выкладчыкамі горача абмяркоўвалі паўсядзённыя праблемы, з чымсьці спрачаліся, з нечым не пагаджаліся, але да многага і прыслухоўваліся. Бо было да чаго прыслухоўвацца і было што слухаць, а яшчэ нязменным заставаўся аўтарытэт тых, хто і сеяў гэтае нацыянальнае зерне ў душы, прагныя пазнання, у душы, гатовыя рабіць усё, дзеля росквіту Бацькаўшчыны.

Лекцыі ва універсітэце чыталі Якуб Колас, Адам Бабарэка, Іван Замоцін, Мікалай Шчакаціхін... Хіба ўсіх пералічыш? Але што важна, дык тое, што ідэямі нацыянальнага Адраджэння ў аднолькавай ступені жылі і тыя, хто нарадзіўся на Беларусі і людзі, якія прыехалі ў Мінск з іншых гарадоў. Яскравае сведчанне таму дзейнасць тых жа І.Замоціна і М.Шчакаціхіна. Яны хутка і дасканала авалодалі беларускай мовай, захапіліся беларускай літаратурай, мастацтвам і рабілі7усё, каб багацце культурнай спадчыны як мага паўней перадаць сваім выхаванцам.

Дваццатыя — пачатак трыццатых гадоў — зорны час у гісторыі універсітэта. Гэта і на самай справе быў універсітэт **беларускі** і ён з'яўляўся менавіта універсітэтам **нацыянальным.** Ён працаваў дзеля **беларусаў**, у імя **беларускасці**. Ці не таму, калі актывізаваліся касмапалітычныя сілы, калі пачалі шукаць ворагаў народа, меч беззаконня ці не ў першую чаргу апусціўся на студэнтаў і выкладчыкаў гэтай установы. Многія з іх сталі ахвярамі таталітарнага рэжыму. Адны пасля жорсткіх катаванняў былі расстраляны, іншыя пайшлі этапамі, некаторыя знайшлі вечны спачын у сібірскай тайзе, у рудніках Поўначы...

Лёс БДУ — і лёс усёй шматпакутнай Беларусі. Гэта тычыцца і ваеннага перыяду, калі выкладчыкі і студэнты апынуліся ў аднолькавых варунках. Яны змагаліся на франтах Вялікай Айчыннай вайны, былі падпольшчыкамі, партызанамі... Не ўсе выжылі, а тыя, каму пашчасціла, зняўшы ваенную форму, спяшаліся ў родны універсітэт, каб працягваць сваю справу. Выкладчыкі зноў чыталі лекцыі, студэнты, як і да вайны, прагна спасцігалі веды.

Праўда, заняткі аднавіліся яшчэ ў кастрычніку 1943 года пад Масквой, на станцыі Сходня, а з 12 верасня 1944 года працягваліся ў разбураным Мінску. Тады ж, у 1944 годзе быў заснаваны і факультэт журналістыкі (у 1947—1967 гадах працаваў як аддзяленне філалагічнага факультэта, створанага яшчэ ў 1939 годзе). Студэнты згаданых факультэтаў праяўлялі найбольшую цікавасць да літаратуры, мастацтва, як і іх папярэднікі, якія вывучыліся ў даваенны час.

Проста немагчыма пералічыць усіх беларускіх пісьменнікаў, хто ў свой час атрымаў тут вышэйшую адукацыю. І многія з іх, будучы студэнтамі, наведвалі літаратурны гурток, якім кіравалі Ю.Пшыркоў (1948—1955), І.Навуменка (1956—1958), А.Лойка (1959—1964). Алег Антонавіч у 1964 годзе ўзначаліў універсітэцкае літаратурнае аб'яднанне "Узлёт".

Студэнты, перш чым пачаць выступаць у друку, свае творы абмяркоўвалі сярод сяброў, выпускалі рукапісныя альманахі "Маладыя сілы" (1950 і 1951), "Вясновая рунь" (1961). Пабачылі свет і калектыўныя зборнікі "Падарунак" (1958), "Узлёт" (1965), "Натхненне" (1967), "Вёсны" (1977)...

У гэтым шэрагу і унікальнае выданне "Універсітэт паэтычны" (1971), што пабачыла свет у 1971 годзе ў сувязі з 50-годдзем БДУ і стала свайго роду універсітэцкай паэтычнай анталогіяй — пад адной вокладкай сабраны паэтычныя творы ўсіх пісьменнікаў (нават празаікаў, крытыкаў, мовазнаўцаў), хто некалі вучыўся ва універсітэце.

Сёння БДУ — буйнейшая вышэйшая навучальная ўстанова нашай дзяржавы. У ёй у 1995—1996 навучальным годзе займалася 14,4 тысячы студэнтаў на дзённым і завочным навучанні. На 121 кафедры працавала 1410 выкладчыкаў, у тым ліку 190 прафесараў і дактароў навук, больш за 800 дацэнтаў і кандыдатаў навук. Дарэчы, БДУ і сам рыхтуе выкладчыцкую змену. З 1927 года ва універсітэце працуе аспірантура, у 1988-м створана дактарантура.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# ПЕРШЫ РЭКТАР

*"25 лютага 1919 г. Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Саветаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў пастанавіў адкрыць у г.Мінску дзяржаўны універсітэт і на першыя патрэбы па яго арганізацыі адпусціць са сродкаў рэспублікі 1 мільён рублёў". ("Известия" ЦИК Советов Белоруссии", 6.03.1919 г.)*

Для падрыхтоўчай работы па арганізацыі БДУ ў Мінску была створана камісія, якую ўзначаліў акадэмік Я.Карскі. Народны камісарыят асветы РСФСР стварыў у Маскве камісію садзейнічання арганізацыі БДУ. Але адкрыццё БДУ ў 1919 г. сарвалася. Работа па стварэнні універсітэта ў Мінску аднавілася пасля вызвалення горада ад польскіх войскаў.

У Маскве актывізавала сваю работу згаданая камісія пры Народным камісарыяце асветы РСФСР. Вялікую ўвагу гэтай справе ўдзялілі наркам асветы А.Луначарскі і яго намеснік прафесар М.Пакроўскі. У склад камісіі ўваходзілі гісторыкі: прафесары В.Волгін і У.Пічэта, прафесар-біёлаг Д.Пранішнікаў, прафесар-этнограф М.Янчук, медыкі-прафесары Л.Мінор і М.Кроль, хімік А.Беркенгейм. У сваёй аўтабіяграфіі У.Пічэта адзначае: "Па прапанове ўрада БССР яшчэ з кастрычніка 1920 г. я стаў на чале камісіі, якая была занята падрыхтоўчай работай для арганізацыі Беларускага дзяржаўнага універсітэта". 27 снежня 1920 г. група членаў камісіі прыбыла ў Мінск і адзначыла поўную магчымасць адкрыць БДУ ў 1921 г.

Пры ЦВК БССР была створана аператыўная група з 5 чалавек, якая ўзначаліла ўсю арганізацыйную работу ў Мінску. У красавіку 1921г. адбылася III сесія ЦВК, якая абмеркавала пытанне аб адкрыцці БДУ. 17 красавіка 1921г. Прэзідыум ЦВК прыняў пастанову, якая пацвярджала дэкрэт ад 25 лютага 1919 г.

8 ліпеня 1921 г. Уладзімір Іванавіч Пічэта прызначаецца першым рэктарам Беларускага дзяржаўнага універсітэта. 11 ліпеня 1921 г. у Мінску ў будынку гарадскога тэатра на ўрачыстым пасяджэнні партыйных, савецкіх і прафсаюзных арганізацый быў абнародаваны дэкрэт аб адкрыцці Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Пічэта з вялікім запалам бярэцца за цяжкую, але вельмі патрэбную справу па арганізацыі БДУ. У чэрвені 1921 г. быў адкрыты першы факультэт БДУ — рабочы факультэт (рабфак). 30 кастрычніка 1921 года адбылося ўрачыстае адкрыццё Беларускага дзяржаўнага універсітэта. На ім прысутнічалі прадстаўнікі беларускага ўрада на чале з А.Чарвяковым, а таксама прадстаўнікі партыйных, прафсаюзных і грамадскіх арганізацый. З 1 лістапада 1921 г. пачаліся заняткі на ўсіх факультэтах.

З першых крокаў па арганізацыі БДУ кіраўнікам універсітэта прыйшлося пераадольваць вялікія цяжкасці. Але бадзёрасць, аптымізм, кіпучая энергія Пічэты аказвала вялікі ўплыў на першых арганізатараў і выкладчыкаў БДУ. У сваіх успамінах адзін з бліжэйшых саратнікаў У.Пічэты па арганізацыі БДУ акадэмік С.Вальфсон пісаў: "...У пакойчыку 15 прафесараў і выкладчыкаў, заўтра — 30 кастрычніка 1921 г. ...Папялявая, соль і перац — шавялюра Уладзіміра Іванавіча Пічэты. У.І. гаворыць доўга і з захапленнем. Задачы універсітэта. Цяжкасць працы. Характарыстыкі асобных працаўнікоў. Заклікі да дружнай сумеснай дзейнасці. Нам належыць зрабіць вялікую гістарычную справу. Будзем яе сумесна тварыць...

У другім кутку — вялікі вучоны М.А.Янчук — буйнейшы знаток беларускай літаратуры і выдатны этнограф. ...У актавай зале сустрэўся з рэктарам. У.І. самотна блукаў па велізарным пустым пакоі, у якім праз гадзіну павінна было загарэцца універсітэцкае жыццё. Ведаеце, хутка ўжо пачнуць збірацца студэнты, а глядзіце, што робіцца...

...Малюнак, сапраўды, быў не з тых, што натхняюць. Перш за ўсё, актавая зала была зусім пустая. Як жа быць? У прымыкаючым да залы калідорчыку было навалена некалькі дзесяткаў лавак і табурэтак, дастаўленых напярэдадні з Наркамасветы. У будынку нікога не было — ні служачых, ні ўборшчыкаў. У. І. сказаў: "Трэба спяшацца. Давайце будзем самі наводзіць парадак".

Мы ўзяліся перацягваць і расстаўляць лаўкі, знайшлі невялічкі столік, які знаходзіўся ў няўстойлівай раўнавазе, і дастасавалі яго да кафедры. Я намаляваў плакат чырвона-сінім алоўкам: "Аўдыторыя N 1. Уваход у часе лекцый забараняецца" і прыладзіў яго да дзвярэй..

Беларускі дзяржаўны універсітэт нарадзіўся... Праўда, умовы яго існавання ў першыя месяцы былі суровымі. Аўдыторыі нярэдка ўяўлялі напружана слухаючага лектара соценны натоўп, які стаяў між чатырох сцен. Стаялі студэнты — адсутнічалі лаўкі, стаяў прафесар — адсутнічала крэсла. У галёшах, у паліто, у шубах, некаторыя з паднятымі каўнярамі. А ў факультэцкай канцылярыі пісалі ў пальчатках і алоўкамі: чарніла замярзала.

Але універсітэт жыў..."

Дзейнасць У.Пічэты ў БДУ была вельмі разнастайнай, шматбаковай і плённай. З цягам часу аб гэтым будзе напісаны не адзін артыкул, а, магчыма, нават і цэлая кніга. Уся праца У.Пічэты па арганізацыі БДУ, яго навукова-педагагічная дзейнасць, падрыхтоўка соцень першых высокакваліфікаваных спецыялістаў для народнай гаспадаркі, навукі і культуры Беларусі — гэта высокі, самаадданы подзвіг вучонага і грамадзяніна, палымянага патрыёта.

1921 год. Беларусі як паветра патрэбны быў універсітэт. Але ў Мінску ў той час не хапала выкладчыкаў. І тады Пічэта звярнуўся па дапамогу да наркома асветы РСФСР А. Луначарскага, рэктара МДУ В.Волгіна, сам стаў запрашаць прафесараў з Масквы, Петраграда, Казані, Растова, Адэсы і іншых гарадоў нашай краіны. Хутка ў Мінск пачалі з'язджацца з розных месц будучыя выкладчыкі Беларускага універсітэта. Прыгадаем некаторых з іх.

Мікалай Андрэевіч Янчук быў беларускім, украінскім і рускім вучоным-славістам (гісторыкам, этнографам, фальклярыстам і літаратуразнаўцам). Выпускнік і выкладчык Маскоўскага універсітэта, ён заснаваў і рэдагаваў часопіс "Этнаграфічны агляд". Янчук быў адным з арганізатараў і лектараў Беларускага народнага універсітэта (1918) у Маскве. Мікалай Андрэевіч быў аўтарам арыгінальных прац па беларускім музычным фальклоры, у галіне антрапалогіі і археалогіі. Сярод арыгінальных музычных твораў, апрацаваных прафесарам Янчуком, быў харавы гімн "Не пагаснуць зоркі ў небе" на словы Я.Купалы. На вялікі жаль, Мікалаю Андрэеевічу не давялося доўга папрацаваць у сценах БДУ. У снежні 1921 г. яго не стала.

Яшчэ адзін Мікалай — вучоны з сусветным імем Мікалай Міхайлавіч Нікольскі, гісторык рэлігіі і царквы, усходазнаўца і этнограф, будучы акадэмік АН БССР і член-карэспандэнт АН СССР, аўтар падручнікаў па гісторыі старажытнага свету для студэнтаў і школьнікаў. Працы М.Нікольскага па гісторыі народаў Усходу прадстаўляюць сур'ёзны ўклад у сусветную навуку.

Уладзімір Мікалаевіч Перцаў. Выдатны савецкі вучоны і педагог, аўтар падручніка па гісторыі Старажытнай Грэцыі для гімназій Расіі, буйнейшы спецыяліст у галіне ўсеагульнай гісторыі. У.Перцаў 1 кастрычніка 1921 г. быў выбраны прафесарам кафедры ўсеагульнай гісторыі БДУ.

З 1922 г. па запрашэнні У.Пічэты прафесарам нашага універсітэта стаў Іван Іванавіч Замоцін, былы прафесар Варшаўскага і Данскога універсітэтаў, таленавіты літаратуразнаўца, аўтар прац аб жыцці і творчасці А. Пушкіна, І.Тургенева, М.Някрасава, Я.Купалы, Я.Коласа, М.Багдановіча, Ц.Гартнага. Праз некаторы час Замоцін стане акадэмікам АН БССР і членам-карэспандэнтам АН СССР, гонарам беларускай навукі і культуры.

Буйнейшым славянскім і беларускім лінгвістам быў адэскі вучоны Пётр Апанасавіч Бузук. Восенню 1925 г. ён атрымаў ліст ад У.Пічэты. Рэктар БДУ запрашаў вучонага пераехаць на працу ў Мінск. Бузук даў згоду. Тут ён пачаў выкладаць на літаратурна-лінгвістычным аддзяленні педфака.

Сярод першых прафесараў БДУ быў Міхась Барысавіч Кроль, які потым узначаліў медыцынскі факультэт і кафедру нервовых хвароб. Аб навуковым аўтарытэце гэтага чалавека гаворыць той факт, што калі для лячэння Леніна ў 1922—1923 гадах спатрэбіўся спецыяліст па нервовых хваробах, выбар паў на М. Кроля.

Асабліва вялікае значэнне надаваў У.Пічэта падрыхтоўцы ў Беларусі высокакваліфікаваных нацыянальных кадраў. Менавіта па яго ініцыятыве на выкладчыцкую работу ў БДУ былі запрошаны людзі, якія сёння складаюць гонар беларускай навукі і культуры. Я маю на ўвазе таленавітых вучоных-гісторыкаў: аўтара першых падручнікаў па гісторыі Беларусі, наркама асветы рэспублікі, члена праўлення БДУ, яго першага прафесара, першага дэкана факультэта грамадскіх навук, першага дэкана педагагічнага факультэта Усевалада Макаравіча Ігнатоўскага, члена праўлення і аднаго з першых прафесараў кафедры гісторыі Беларусі Фёдара Фёдаравіча Турука, відных вучоных-гісторыкаў Аляксандра Антонавіча Савіча, Васіля Данілавіча Друшчыца, Аляксандра Антонавіча Сянкевіча. А ці можна забыць пісьменнікаў Якуба Коласа і Максіма Гарэцкага, мовазнаўцаў Я.Лёсіка і С.Некрашэвіча, літаратуразнаўцу М.Піятуховіча, географаў А.Смоліча і Я.Канчара?

Так, восенню 1923 г. У.Пічэта запрашае Якуба Коласа на работу ва універсітэт у якасці выкладчыка беларускай мовы. У 1925 годзе, абапіраючыся на ўказанні і дапамогу У.Пічэты, Якуб Колас разам з Максімам Гарэцкім арганізуе гурток беларускай культуры на рабфаку БДУ.

Не ўсім вядома, што першыя студэнты БДУ днём працавалі, а вечарам слухалі лекцыі. Нягледзячы на вялікія цяжкасці, якія перажываў універсітэт у першыя гады свайго існавання, сярод студэнтаў панаваў вялікі энтузіязм. Гэта неаднаразова адзначаў У.Пічэта. У сваім артыкуле "Год працы Беларускага дзяржаўнага універсітэта" ён указваў: "...Заняткі ў мінулым годзе вяліся ў надзвычайных умовах пры тэмпературы ніжэй нуля, пры адсутнасці ў лабараторыях водаправода. І толькі гераічная напружанасць прафесараў і лектараў універсітэта, падтрыманая энтузіязмам паступіўшай ва універсітэт моладзі дала магчымасць правесці вучэбны год без асабліва зацяжных астановак".

Ва універсітэце ў 1921—1922 навучальным годзе быў арганізаваны шэраг публічных выступленняў, прыбытак ад якіх паступаў у фонд дапамогі галадаючым. У.Пічэта пісаў, што справа не ў колькасці сабраных сродкаў, а ў жывым удзеле ў справе дапамогі галадаючым жыхарам Паволжа.

*(Працяг на стар. 15)* —

## УСЁ ПРА СУЧАСНУЮ ФРАНЦЫЮ



**У Мінску, у бібліятэцы імя Пушкіна адкрылася франка-беларуская зала інфармацыі пра сучасную Францыю. Тут будуць дзейнічаць: кіёск французскай прэсы, інфармацыйны цэнтр, медыатэка і аддзел французскай мовы і адукацыі. Зала стане добрым памочнікам у вучобе і працы для студэнтаў, палітолагаў, журналістаў, усіх тых, хто цікавіцца сацыяльным, палітычным, эканамічным, культурным і навуковым жыццём Францыі.**

**Ва ўрачыстым адкрыцці франка-беларускай інфармацыйнай залы прыняў удзел Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Францыі ў Рэспубліцы Беларусь Клод Жаліф.**

*На здымках: 1, 2. У час урачыстага адкрыцця франка-беларускай інфармацыйнай залы.*

*Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА, БЕЛТА*

## ГАНАРОВЫ ГРАМАДЗЯНІН ЗАСЛАЎЯ



**10 кастрычніка ў памяшканні Пасольства Беларусі ў Лондане адбылася цырымонія ўручэння Анджэю Цеханавецкаму пасведчання аб прысваенні яму звання ганаровага грамадзяніна горада Заслаўя.**

**А.Цеханавецкі, які жыве ў Лондане, з'яўляецца нашчадкам Мсціслаўскіх-Заслаўскіх. Памятаючы аб сваіх беларускіх каранях, ён напісаў шэраг прац па гісторыі мастацтва на Беларусі. Сярод іх найбольш прыкметнымі з'яўляюцца "Міхал Казімір Агінскі і яго сядзіба музаў у Слоніме", "Нясвіж — міжнародны асяродак культуры на Беларусі".**

**А.Цеханавецкі з'яўляецца старшынёй Беларуска-польскай камісіі па агульнай культурнай спадчыне. У якасці падарунка Беларусі ім былі перададзены шэраг рэдкіх кніг, слуцкі пояс. Дзейнасць А.Цеханавецкага на карысць беларускай культуры была адзначана медалём Ф.Скарыны.**

**На цырымоніі прысутнічалі пасол Польшчы ў Вялікабрытаніі А.Стэмплоўскі, былы пасол Вялікабрытаніі ў Беларусі Дж.Эверард з жонкай, прадстаўнікі беларускай і польскай дыяспар, вучоныя-славісты.**

## АДЗІН З ПАЧЫНАЛЬНІКАЎ

**Арцём Вярыга-Дарэўскі, з дня нараджэння якога споўнілася 180 гадоў (памёр у 1884 годзе), — з тых, хто стаяў ля вытокаў беларускай літаратуры. Ён з'яўляецца аўтарам паэмы "Ахульга", драмы "Гордасць", камедый "Хцівасць" і "Грэх 4-ы — гнеў", дарожных нататак "Гутарка з пляндроўкі на зямлі латышскай", верша "Думка хлопка з аколіц Віцебска на адглос вольнасці", а таксама твораў "Быхаў", "Паўрот Міхалка" і іншых. А.Вярыга-Дарэўскі першым пераклаў на беларускую мову паэму А.Міцкевіча "Конрад Валенрод"...**

**Нарадзіўся А.Вярыга-Дарэўскі ў вёсцы Кублічы на Ушаччыне. Прымаў удзел у паўстанні 1863—1864 гадоў, быў адным з арганізатараў узброенага выступлення на Віцебшчыне. Пасля арышту ўтрымліваўся ў віцебскай турме, у 1865 годзе быў сасланы ва Усходнюю Сібір, з 1868 года пасяліўся ў Іркуцку. У Сібіры і памёр.**

# ПАКУЛЬ ПАМЯТАЮЦЬ — ЖЫВЕШ

## МІКОЛУ ЛОБАНУ СПОЎНІЛАСЯ Б 85...

РАЗВІТАЎСЯ і праводзіў у незваротную вечнасць большасць сваіх равеснікаў, старэйшых і маладзейшых сяброў да болю і крыўды яшчэ не расквітнелых пабрацімаў.

Азіраюся на вуліцы — поўна маладых, дужых, прыгожых і, відаць, шчаслівых людзей. Саступаючы ім дарогу, яшчэ зрэдзь кульгаюць рэшткі майго пакалення. І я сярод іх — адзінокі, самотны і забыты запознены пасажыр на імклівай планеце Зямля. І няма з кім сустрэцца, няма з кім пагаварыць, параіцца, паспрачацца, пабедаваць, падзяліцца запаветным, няма каму пазваніць. Маў-чанне...

Такі, відаць, лёс кожнага пакалення. А было ж! А былі ж! Якія сябры і сябрыны, якія сустрэчы, праходкі і размовы, прадоўжаныя па тэлефоне, якія па студэнцкай традыцыі на разасланай газеце посныя застоллі вярталі ў маладосць! Незабыўныя гаворкі, вогнішчы, тосты і песні! Яны жывыя ў памяці, пакуль жывыя мы, а забудуцца, адыдуць з апошнім сучаснікам. Такі непарушны, нікому непадуладны закон існавання на адзінай спакутаванай, скалечанай чалавецтвам Зямлі.

А было ж! Здаецца, — працягні руку і дакранешся да блізкага, жывога і самага дарагога незабыўнага дня, убачыш усмешку, пачуеш голас сяброў.

Дзякуй Табе, памяць!

На пісьменніцкіх сходах, вечарах азіраюся і рэдка сустракаю знаёмыя аблічча. Наўкол — маладыя незнаёмыя, не ім мы раўня, таленты. Дзе ж вы, мае сябры, мае аднагодкі? Адпаведна наменклатурным рангам, — на розных могілках, у розных магільных шэрагах, пад рознымі нумарамі, помнікамі і без іх. Афіцыйна іх успамінаюць у круглыя даты, праводзяць "мерапрыемствы" і забываюць да наступных угодкаў.

Вось і надышла нагода ўспомніць аднаго з таленавітых празаікаў і маўклівага пакутніка — Міколу Лобана ў пару яго 85-годдзя. Круглая дата не юбілей, а памінанне. І я хачу ўспомніць Міколу Паўлавіча не з вышыні дацэнцкай аналітычнай кафедры, а расказаць у межах магчымага пра адметнага, непаўторнага Колю Лобана, успомніць сумленнейшую і нястомную працавітасць і амаль вясковую сціпласць яго людскага непадабенства.

Аж у 1930 годзе з бабруйскай "Вясны" запомнілася толькі імя - Мікола Лобан. Апавяданне не ўразіла і не запомнілася, а прозвішча дэбютанта не забылася. Тады ж не было столькі выданняў і аўтараў. Можа, запомнілася таму, што нагадвала Коласавага Лабановіча. Праз шмат гадоў, калі мы пазнаёміліся і пасябравалі, Мікола расказваў, што калісь яго род і зваўся Лабановічамі, а канчатак страціўся, як упершыню яго дзед Васіль прыйшоў у школу. Настаўнік спытаў прозвішча і здзівіўся: "Як? Як? Мужык і шляхецкае прозвішча носіш? Лобан ты. Запомні!" Так і запісаў. Ад таго дзеда і пайшоў род Лобанаў. А пра першае апублікаванае апавяданне ў сталым веку аўтар прызнаваўся: "Цяпер ніколі б яго не ўспомніў, каб не праныры-літаратуразнаўцы". Ён ужо вучыўся ў Слуцку на педагагічных курсах і саромеўся прызнацца аднакурснікам, што гэта надрукаваны яго твор.

"Літаратураю захварэў, — прызнаваўся Лобан, — у раннім дзяцінстве ў родных Чаплічах на багатай талентамі сваёй Случчыне. Гадоў у дзесяць напісаў некалькі апавяданняў і "выдаў зборнік, перапісаны ад рукі друкаванымі літарамі".

На пачатку дваццатых гадоў для ўсіх пачалося агульнае захапленне беларускаю мовай, гісторыяй, літаратурай і мастацтвам. У "Маладняку" аб'ядналася больш за 500 літаратараў, у акругах ствараліся філіі, выдаваліся альманахі, літаратурныя дадаткі да газет. У самыя глухія куткі прыходзілі Багушэвіч, Купала, Колас, Гарун, Багдановіч, Бядуля, Гартны. Яго "Сокамі цаліны" зачытваліся маладыя і людзі сталага веку, у вёсках адкрываліся хаты-чытальні, самая папулярная "Беларуская вёска" друкавала байкі і "Біблію" Крапівы. Чаплiцкую хату-чытальню ўзначаліў Мікола Лобан. Да яго па свежыя кніжкі і навіны бегаў з суседніх Еўлічаў захоплены літаратураю Цімох Крысько (пасля — Васіль Вітка). З тае пары яны пасябравалі на ўсё жыццё. У пяцідзесятыя гады Цімох звёў і здружыў нас да апошніх Міколавых дзён.

Часцей за ўсё мы сустракаліся зімою ў Каралішчавіцкім доме творчасці. Двухпавярховы будынак з сасновага кругляка, памаляваны светлаю вохраю, па-хатняму быў утульны і гасцінны, сагрэты творчаю атмасфераю даверу і шчырае дружбы. У нас склалася трыо лыжнікаў — Гілевіч, Лобан і я, часам — Хадкевіч, Бураўкін, Караткевіч, Герчык, а нязменнымі былі мы. Пасля доўгіх прабежак па лясных сцежках і ўзгорках, стомленыя, але шчаслівыя, завальваліся ў чый-небудзь пакой. Там ужо чакаў нас тэрмас гарачага чаю, а часам і глыток "аквавіты" для пашырэння сасудаў і сугрэву. І пачыналіся гаворкі, чытанне яшчэ не астылых старонак і ўспаміны, успаміны. Асабліва захапляла пярэстае жыццё Міколы Лобана. Ён ніколі не выхваляўся сваім ветэранствам, не насіў ордэнаў і медалёў, не расказваў пра подзвігі. Гаварыў, як пра самае звычайнае і будзённае.

У гаворцы, як і ў паводзінах, як у хадзе, у грунтоўнай разважлівасці ён быў нетаропкі і дасціпны. Высокі, статны, у пукатых акулярах з прысоленым сівізною густым вожыкам над высокім ілбом. Сапраўдны **Лобан**. Яму было што ўспомніць і расказаць. У тую пару ён працаваў у Інстытуце мовы Акадэміі навук над складаннем слоўнікаў нашай мовы — дасведчаны і багаты знаўца роднага слова.

Ён часта ўспамінаў, як у 20-я гады з пачуццём годнасці і гонару беларусы адчулі сябе беларусамі, а літаратурная мова стала прыкметаю высокай культуры. У аўтабіяграфіі Мікола Паўлавіч расказваў, як у 1925 Годзе ў Слуцкай сямігодцы "нам абвясцілі, што з наступнага панядзелка ўсе ўрокі будуць выкладацца па-беларуску. Не здзівіла нас і тое, як закаранелыя старарэжымныя інтэлігенты, выкладчыкі былой класічнай гімназіі змогуць адразу перайсці на беларускую мову. Мы пранікліся яшчэ большай павагай да нашага любімага выкладчыка матэматыкі, праслухаўшы першую на беларускай мове лекцыю. Нам паказалася, што ён ніколі так прыгожа не гаварыў, як на гэтай лекцыі".

Пасля педагагічных курсаў Лобан сам падаўся на настаўніцкі хлеб у палескія вёскі Пласток і доўгую, як жніўная песня, Таль.

"Аднойчы іду на ўрок і бачу па гразкай вуліцы ў бок Любані ідуць фурманкі. На пярэдняй — Янка Купала і Платон Галавач. А праз некаторы час чытаў у "Звяздзе" паэму "Над ракою Арэсай". Настаўнічаў і не кідаў пісаць. Пасылаў вершы і апавяданні ў "Беларускую вёску" і дадатак "Чырвоны сейбіт". Вершаў не ўхваліў Пятро Глебка, а прозу настойліва раіў пісаць Кузьма Чорны. Потым успамінаў Мікола Паўлавіч, як з Бабруйскага "Камуніста" "незабыўны Хвядос Шынклер за вушы цягнуў у літаратуру, прадракаў чорт ведае якую будучыню..." І не памыліўся. Мабыць, тады пачынаўся свядомы ўваход у мастацтва таленавітага Міколы Лобана...

Пасля лыжаў у зацяжным чаяванні мы з Нілам Сымонавічам захоплена слухалі павольныя, без знешніх эмоцый, успаміны Міколы Паўлавіча, як лёс ударыў па ім і надоўга адарваў ад літаратуры: у 1939 годзе неадольная хвароба забрала самую дарагую і каханую Любоў Іванаўну. "Гора прымусіла мяне з'ехаць у Кіеў на філфак універсітэта, а потым вярнуцца ў Мінск, у БДУ". Потым была напісана шчымліва-лірычная аповесць "Любка", але яна так і не пабачыла свету.

На другі дзень вайны з палаючага, ператрушчанага ў друз і попел Мінска зняты па хваробах з вайсковага ўліку студэнт Лобан у натоўпе бежанцаў падаўся на Усход. Пакутніцкія сцежкі галодных, знясіленых, змуленых вялі праз Магілёў, Клімавічы, Рослаў на Арол і Ліпецк. У раённым гарадку "Адна жанчына выйшла на сярэдзіну вуліцы, расставіла рукі: — Куды ж вы, мужчыны? На каго вы нас пакідаеце?" Крыўда, боль і сорам прывялі белабілетніка Лобана на Волхаўскі фронт. У кастрычніку 1941-га каля станцыі Мга быў паранены ручною гранатаю. "Адзін з асколкаў і цяпер сядзіць у шыйным пазванку, прылашчыўшыся да сардэчнага нерва", а другі выйшаў праз правую шчаку і на ўсё жыццё пакінуў глыбокі след.

У санітарны цягнік па дарозе ў Валагодскі шпіталь трапіла авіяцыйная бомба і з усяго вагона з параненымі абедзвюма нагамі жывы выпаўз адзін Мікола Лобан. Відаць лёс збярог яго дзеля нашай мовы, літаратуры і культуры.

Пасля Іркуцкага шпіталя прыклыпаў з кіёчкам у абсмаленым шынялі на станцыю Сходня у прытулены там Беларускі універсітэт Мікола Лобан. Разам з такім жа параненым Іванам Мележам хадзілі на лекцыі і аднакурснікам выкладалі ваенную навуку. Там жа Пятро Глебка разгледзеў лінгвістычны талент студэнта-франтавіка і запрасіў Міколу Паўлавіча ў Камісію па складанні руска-беларускага слоўніка пры Акадэміі навук, хоць яшчэ і грымела вайна.

Пасля універсітэта Мікола Паўлавіч стаў адным з вядучых лінгвістаў нашай акадэміі, кандыдатам навук, заслужаным работнікам культуры, нястомным і да жорсткасці патрабавальным да сябе празаікам.

У 1953 годзе выйшла яго аповесць "Іркуцянка". Не давалі спакою ўбачаныя, пераэжытыя, перапакутаваныя падзеі нашага трагічна зламанага часу і вырашыў паказаць іх на лёсе аднаго роду Шэметаў. Параіўся са сваім земляком Янкам Скрыганам. "Дык у цябе ўсё ёсць, — сказаць вопытны пісьменнік, — трэба пісаць".

У 1964 годзе з'явілася першая кніга задуманай трылогіі "На парозе будучыні" (О, каб ён ведаў нашу будучыню!). Яе заўважылі, чыталі, хвалілі, захапляліся жывою багатаю моваю. Падзеі развіваліся ў фарватэры тагачаснай ідэалагічнай плыні. "Гарадок Устронь" (псеўданім Слуцка) дапісваў у Каралішчавіцкім доме творчасці. У асноўным пісаў на машынцы. Відаць, той асколачак, што "прылашчыўся да сардэчнага нерва", напамінаў пра сябе ўсё



часцей і часцей: дрыжалі рукі, стамляліся ногі. Кожная старонка па некалькі разоў правілася і передрукоўвалася, каб вярнуцца зноў і зноў.

Каралішчавіцкі дом творчасці не абміноўвалі пісьменнікі Масквы, Ленінграда, Украіны, любілі чарнічныя паляны і маліннікі літаратары Грузіі і Сярэдняй Азіі. Летам 1976 года прыехала маскоўская паэтэса Марына Тарасава. Яна адразу пасябравала з усімі насельнікамі дома. Асаблівую ўвагаю абкружыла Міколу Паўлавіча. Яны разам гулялі, Марына ўважліва слухала суровую праўду ягонага жыцця і неўзабаве прысвяціла Міколу Паўлавічу верш. Я яго пераклаў на беларускую мову і даў ёй на ўспамін. Вось ён:

**Я трымаю яго пад руку,**
**Лёгкую, як ластаўчына крыло,**
**Я гуляю з ім пад самотнымі соснамі.**
**Ад "Скокаў святога Віта"**
**Яго непаслухмяныя пальцы**
**Заўсёды трымцяць,**
**Нібы метраном неспакойнага веку,**
**Сіл не стае сядзець у ганаровым прэзідыуме,**
**Сіл не стае прышпіліць ордэнскую калодку**
**Да злінялага пінжака.**
**Адзінокі светлы стары**
**З вачыма лясное крыніцы**
**Засланіў нашу Радзіму.**
**Як гэта сказана гучна.**
**Як гэта сказана ціха.**

*- 1976 год.*

Асабліва шчыраваў Лобан зімою. Святло ў яго пакоі не выключалася з цёмнай раніцы да глыбокай поўначы. Ён не любіў расказваць пра свае задумы, сюжэтныя хады, пра тое, што хвалюе яго. Часам распытваў мяне пра забароненыя рэпрэсіўныя факты маёй біяграфіі. Я цікавіўся, ці не спатрэбіцца гэта яму для рамана. Пасля доўгай паўзы ён прызнаваўся: "Як многія сумленныя людзі, і мой герой павінен прайсці кругі пекла". Падрабязнасцей ён не расказваў. Ды да напісання твора шкодна яго пераказваць. Гэта тое самае, што невідушчаму распісваць прыгажосць і веліч "Сікстынскай мадонны". Яе трэба бачыць, а твор чытаць.

Нарэшце стомлены, але шчаслівы між іншым прызнаўся, што ў "Гарадку Устронь" паставіў апошнюю кропку. Сябры віншавалі. Хто жартам, а хто і ўсур'ёз прапанавалі ў часе вячэры адзначыць завяршэнне работы. А каб не было сумна, трэба нешта прыдбаць, ажывіць і аздобіць калектыўную вячэру. Мы з Міколам сталі на лыжы і выправіліся ў суседні пасёлак па пратаптанай многімі пісьменнікамі сцежцы.

Вецер снежным шротам хвастаў нашыя твары, залепваў шкельцы Міколавых акуляраў. Магазіншчыцу мы знайшлі дома, але яна паслухалася, прывяла нас у краму і адпусціла чым

быў багаты гандаль тае пары. Увечары дапазна працягваліся вясёлыя пісьменніцкія "дажынкі". З тых застольнікаў ужо нікога не засталося.

Асабліва напакутаваўся Мікола з апошняю кнігаю трылогіі — "Шэметамі". Ён набраўся адвагі сказаць тую праўду, якая не давала яму спакою ўсе гады: Андрэй Шэмет прайшоў высокія партыйныя пасады, вайну, партызаншчыну, сталінскія рэпрэсіі, пакутнае і горкае каханне. А гэта не ўкладалася ў пракрустава ложа ідэалагічных стандартаў. Рэдактары па некалькі разоў прымушалі перарабляць адно і тое ж, потым вярталіся да ранейшага варыянта і крэслілі зноў. Усё было не так, як патрабавалі ўстановачныя інстанцыі. Яны згаджаліся з аргументамі аўтара, але моўчкі тыцкалі пальцам у столь: "Ідзі туды і ўзгадняй". Ён абіваў парогі, прасіў пропуска, далікатна, хітра псаваў твор. І нарэшце ў 1981 годзе "Шэметы" завяршылі трылогію.

Блуканне па пакутах і хвароба дабівалі пісьменніка. Ён вельмі любіў пах і смак клубніц. Іх прадавалі ў вялікіх плеценых з дранкі кашах. Мы часам бралі найбольшы і ласаваліся са смакам. "Гэта ж пахне мамінымі градамі", — усміхаўся ён. Як ні трэсла хвароба, а ён не здаваўся — пісаў і пісаў, думаў, разважаў, асуджаў несправядлівасць, спагадаў пакрыўджаным у кароткіх эсэ, асацыяцыях, артыкулах, запісах і сваю апошнюю кнігу назваў "Пяць раніц тыдня". Яе спагадліва і хутка выдалі ў 1984 годзе. У кожнай раніцы столькі роздуму, назіранняў, пярэчанняў усталяваным ілжывым ісцінам. Хіба ж нам шукаць спакойнага "абы ціха" жыцця? Як сказаў Л. Талстой пра спакой? "Спакой — душэўная подласць". Гэта крэда і запавет сумленнага Лобана.

Зусім хворы, дрыготкімі рукамі ён сам даводзіў да ладу трэці том сваіх выбраных твораў. Але пабачыць іх не паспеў. Я ведаў пра цяжкі стан свайго друга, хоць ён і не надта скардзіўся.

19 снежня з Васілём Віткам мы паехалі да яго ў водведкі. Ён быў увесь у клопатах і працы. Перасільваючы боль і ўсе нязручнасці, падараваў нам толькі што выдадзеныя "Пяць раніц тыдня", аформленыя яго дачкою мастачкай Ірынай Лобан. Кароткія аўтографы напісаны дрыготкім почыркам.

Мы доўга развітваліся з гасцінным гаспадаром. Кожны з нас адчуваў трывогу, а Мікола ўсміхаўся, прасіў заходзіць часцей. Па дарозе дамоў мы ўсю дарогу маўчалі. Я баяўся часта званіць.

28 снежня апоўдні пазваніла яго Браніслава Леапольдаўна і сказала тры страшныя словы: "А Колі больш няма".

Труна і ў сцюжу патанала ў кветках, а дарога да жалобнага катафалка ўрошвалася слязьмі яго супрацоўніц, прыхільніц, сяброў і блізкіх. Можа, цяпер маладыя наступнікі выдатнага майстра адведаюць астатні прыстанак Міколы Лобана? Веру, — прыйдзе час і ўваскрэснуць яго кнігі, а складзеныя і адрэдагаваныя ім слоўнікі і ў наш скрутны час штодня служаць службоўцам, настаўнікам, выдаўцам, вучням, усім улюбёным у роднае слова. Колькі ж ён мог яшчэ кніг напісаць за гэтыя дванаццаць гадоў?!

"А Колі няма". Зусім нядаўна раптоўна адышоў назаўсёды з нашай сябрыны Васіль Вітка — апошні друг. У каго ж цяпер спытаць?

Але я не самотны. Адгортваю любую старонку першага Лобанавага дня на світанні і, здаецца, чую яго разважлівы голас: "Калі пачынаецца вырай, то ў месцах, дзе пралятаюць дзікія качкі ці гусі, свойскія, як магнітам прыцягнуты да гэтага трыкутніка ў паветры, нязграбна спрабуюць узляцець за імі, узмахваючы крыламі, падаюць долу. Даўні покліч гарпуном чапляе іх непазбыўныя інстынкты". І развагі, развагі, аналогіі, назіранні і на кожнай старонцы — россып моўных перлаў. Я некалі захапляўся "скрыганізмамі", а "лабанізмы" дапаўняюць і аздабляюць іх. Чаго варты: "памыдліны", "вілястая сцежка", "рады няма", "не адманьвайся", "аблежваеш кусты", "у **захапы** цягалі сушняк", "пахілая **цявіна**". І так на кожнай старонцы — навіны, яскравыя, крынічныя, з народных глыбіняў.

На другім дні тыдня ўспомніў свайго настаўніка Кузьму Чорнага: "Дзе прайшло маленства, там пачынаецца Радзіма. Проста, зразумела, а вось сам не дадумаўся. А як Лобан шануе Антуана дэ Сэнт-ЭкзюпеHры! Вось і яшчэ адзін субяседнік. "Жыць — гэта не толькі функцыяніраваць. Неўсвядомленая праца — гэта праца раба. Жыццё свабоднага чалавека — гэта ўсвядомленая праца, творчая праца, на каго я раблю і для чаго я раблю".

Вось і пятая раніца тыдня: "Кніжышча (кніжны склад), што вадзішча з усіх бакоў цяжкімі стагоддзямі ціснe на грудзі, ні ўздыхнуць, ні закрычаць. Няма нічога больш каштоўнага за кнігу". Чытаю, адкрываю, радуюся.

А яго "Размова з другам" — размова з глыбокім даследчыкам і аналітыкам нашай сталай і маладой прозы, асабліва глыбокае веданне і разуменне філасофскай эпікі Кузьмы Чорнага...

Вось і нагаварыўся з даўнім другам, запомненым і жывым. Здаецца, разам надыхаліся спелым борам, праводзілі жураўліныя ключы, дыхнулі пахам талага снегу на вірах паводкі, дакрануўся да дум і душы незабытага друга.

А колькі раніц мінула не пабачаных ім?! Колькі?

Маўчанне. Адзі-но-та.

**Сяргей ГРАХОЎСКІ**

# СПАДЗЯЁМСЯ НА СВЯТОЕ БЛАСЛАВЕННЕ

## ЛІСТ ДА СУСВЕТНАГА АРХІРЭЯ ЯНА ПАЎЛА ПАПЫ РЫМСКАГА

Святы Айцец!

Мы, прадстаўнікі беларускае грамадскасці розных Хрысціянскіх канфесій (каталікі Візантыйскага й Лацінскага абрадаў, праваслаўныя і пратэстанты), звяртаемся да Вас з нагоды 400-гадовага юбілею Берасцейскае Царкоўнае Уніі — гэтай выключна важнай для ўсяго беларускага народа падзеі. Падпісаная праваслаўнымі іерархамі Вялікага княства Літоўскага на зямлі старажытнае Беларусі, Берасцейская Унія ўвасобіла ідэю хрысціянскае еднасці і пераадолення царкоўнага расколу. Акрамя таго, яна дала пачатак існаванню самабытнае Каталіцкае царквы Усходняга абраду, якая паступова ператварылася ў сапраўды нацыянальную царкву, найбольш адпаведную духоўным патрэбам беларусаў.

За сваю гісторыю Уніяцкая царква не раз падвяргалася ўціскам, ганенням ды поўным забаронам, падзяляючы такім чынам лёс свайго народа, з якім яна разам перажывала і слаўныя, і трагічныя перыяды. Сёлетні вялікі юбілей беларусы сустракаюць у час, вельмі складаны як для Уніяцкае Грэка-Каталіцкае царквы, так і для ўсяе краіны.

У гэтай сітуацыі вельмі істотнаю — і чаканаю — дапамогаю была б для нас падтрымка Апостальскае Сталіцы і асабіста Святога Айца. На вялікі жаль, аднак, усе афіцыйныя ўшанаванні 400-годдзя адбываюцца з поўным і незразумелым ігнараваннем беларусаў. На ўрачыстую імшу ў гонар юбілею, што адбылася ў Ватыкане ў ліпені г. г., не быў запрошаны ніводны беларускі святар. Асабліваю неспадзяванкай стала для нас Апостальскае пасланне "З нагоды 400-годдзя Берасцейскае Уніі" ад 12 лістапада 1995 г. Нідзе ў Пасланні ніводным словам не згадваецца не толькі беларуская Уніяцкая царква з ейнай святой і шматпакутнай чатырохсотгадовай гісторыяй, але й сама краіна, дзе адбылася Берасцейская Унія, дзе нарадзілася й сфармавалася Уніяцкая (сучасная назва — Грэка-Каталіцкая) царква, дзе гэтая царква ў сярэдзіне 19 ст. была бязлітасна знішчаная заваёўнікамі і дзе, урэшце, яна на працягу стагоддзяў вяла да Бога свой народ.

Пасланне паслядоўна гаворыць пра Уніяцкую царкву як пра Украінскую Грэка-Каталіцкую, якая, безумоўна, з'яўляецца адной са спадчынніцаў Берасцейскае Царкоўнае Уніі, але тым не менш, як самастойная гістарычная з'ява ўзнікла значна пазней. Усё Пасланне арыентаванае на віншаванне й духоўную падтрымку выключна ўкраінцаў. Магчыма, было б справядліва, каб гэтая арыентацыя была адлюстраваная ў назве і прадмове Паслання. Такім чынам беларусы ясна зразумелі б, што Святы Айцец звяртаецца не да іх, а ім належыць чакаць іншага ліста — або ўсвядоміць у чарговы раз незацікаўленасць Ватыкана іхнімі справамі. Так як іншага паслання не ўзнікла, а вернікі прагнулі хоць нейкае падтрымкі, усе публікацыі **"З нагоды..."**, што з'явіліся на Беларусі, выйшлі з купюрамі й скарачэннямі, каб не абразіць пачуцці вернікаў ды каб не падарваць іхняга даверу да Апостальскае Сталіцы. Напрыклад, у выразах "Украінская Грэка-Каталіцкая Царква" або "Грэка-Каталіцкая Царква на Украіне", што шматразова сустракаюцца ў тэксце, апускалася слова "Украіна", каб пашырыць вестку Паслання і на Беларусь. З тымі ж мэтамі рабіліся й іншыя скарачэнні. Гэта, аднак, не магло вырашыць праблемы, і сапраўдны змест Паслання не застаўся сакрэтам для беларусаў.

Пасланне перадае і развівае асноўную ідэю Берасцейскае Уніі — глыбокую патрэбу й неабходнасць з'яднання Хрысціянскіх цэркваў. Гэтая ідэя была й застаецца надзвычай дарагою для ўсіх нас. Тым больш здаецца незразумелым, што для ўсяе Беларускае Уніяцкае Грэка-Каталіцкае царквы, якая першая рэалізавала даўняе імкненне хрысціянаў да еднасці і прыняла за гэта найбольш цяжкія пакуты, фактычна не знайшлося месца ў экуменічных планах Апостальскага пасаду.

Святы Айцец не можа не ведаць, якую ролю мела старажытная Беларусь у стварэнні, фармаванні й развіцці Уніяцкае царквы, якую багатую духоўную культуру стварыла менавіта беларуская уніяцкая традыцыя, асабліва ў перыяд яе найбольшага росквіту ў 17 ст.

Святы Айцец не можа таксама не ведаць, у якіх невыносна цяжкіх абставінах апынулася беларуская Уніяцкая царква ў 18-19 стст. У неспрыяльных для Беларусі ўмовах, што склаліся ў апошнім стагоддзі існавання Рэчы Паспалітае — афіцыйнай паланізацыі культуры й лацінізацыі Царквы, — Каталіцкая царква Усходняга абраду страціла дзяржаўную падтрымку, ператварылася ў царкву простага народа і, па сутнасці, захавала Беларусь, беларускую мову і духоўныя каштоўнасці беларускага народа ад вынішчэння. Яшчэ цяжэйшыя часы напаткалі беларускі народ і ягоную Царкву, калі нашыя землі апынуліся ў складзе Расійскае імперыі. На шчасце для уніятаў Заходняе Украіны, іхняя тэрыторыя пасля падзелаў Рэчы Паспалітае апынулася ў іншае ад беларусаў дзяржаве — у Аўстра-Венгрыі, дзе Уніяцкая царква працягвала свабодна існаваць і развівацца. На Беларусі ж расійская дзяржаўная палітыка на поўнае вынішчэнне (духоўнае і фізічнае) Уніі прывяла да ліквідацыі Царквы на Полацкім саборы 12 лютага (старога стылю) 1839г.

Вядомыя Святому Айцу й спробы адраджэння Уніяцкае царквы на Беларусі пасля ейнага знішчэння, самай буйной з якіх стала вызваленчае паўстанне 1863—64 гг., калі адным з пунктаў праграмы беларускага крыла паўстання было вяртанне Уніі. Вядома і тое, колькі пакутнікаў за веру далі гэтыя спробы, кожная з якіх няшчадна патаплялася ў крыві.

У 20—30 гг. 20 ст. беларускія айцы Езуіты і Марыяне распачалі актыўную працу па стварэнні Уніяцкіх парафіяў і вяртанні Усходняга абраду, што было горача сустрэта вернікамі. Аднак гэты рух выклікаў раздражненне польскіх царкоўных і свецкіх уладаў, і ў канцы 30 гг. Марыяне былі высланыя за межы Беларусі, місіянерская актыўнасць Езуітаў спыненая, а Усходні абрад фактычна забаронены.

Але Царква працягвала існаваць, і ў 1939г., як вядома Святому Айцу, мітрапаліт Андрэй Шаптыцкі стварыў Грэка-Каталіцкі экзархат, дзе першым — і ажно да сёння адзіным — экзархам стаў а. Антон Неманцэвіч. Ягоныя паўнамоцтвы былі пацверджаныя ў 1941 г. Папам Піем XII з наданнем тытулу Апостальскага Экзарха (Апостальскага адміністратара) для каталікоў Усходняга абраду на Беларусі. Падчас Другое сусветнае вайны дзейнасць беларускае Уніяцкае царквы праследавалася нямецка-фашысцкімі акупантамі, і ў 1942 г. экзарх а. Неманцэвіч быў закатаваны гестапа.

Паваенныя савецкія ўлады таксама жорстка перасякалі любую спробу уніяцкага рэлігійнага жыцця. Цэнтр Царквы перамясціўся на эміграцыю. І пасля таго, як Папа Ян XXIII прызначыў беларускага біскупа, эміграцыйная Царква атрымала магчымасць нармальнага жыцця. Аднак пасля смерці першага біскупа а. Часлава Сіповіча і ягонага пераемніка а. Уладзіміра Тарасевіча беларускае памеснае біскупства перастала існаваць.

Нават цяпер, калі Беларуская Уніяцкая царква вось ужо шэсць гадоў як аднавіла сваю дзейнасць на Бацькаўшчыне, ні экзархат ані біскупства не адноўленыя Святым пасадам, нягледзячы на шматлікія просьбы вернікаў. Ад 1990 г., як памятае Святы Айцец, беларускія уніяцкія (грэка-каталіцкія) святары і вернікі, што няспынна растуць колькасна, неаднаразова звярталіся ў Ватыкан з просьбаю адгукнуцца на нашыя патрэбы і адрадзіць беларускую уніяцкую іерархію. Ведае Святы Айцец і просьбу беларусаў пашырыць паўнамоцтвы вельмі аўтарытэтнага й любімага на Беларусі а. Аляксандра Надсана, Апостальскага візітатара для беларускіх каталікоў замежжа, і даць яму юрыдычна тую душпастырскую ўладу, якую ён мае ў вачах усяе беларускае царквы ды ейных прыхільнікаў, — такое аўтарытэту ніколі не набудуць замежныя прадстаўнікі Ватыкана, што прыязджаюць на Беларусь у апошнія пару гадоў. І хоць сам Святы Айцец казаў у пасланні **Святло Усходу** ад 1995 г., што сапраўдная еднасць можа адбыцца "пры поўнай павазе да кожнай асобнай традыцыі й неабходнай аўтаноміі" (**Святло Усходу,** 20), усе просьбы беларусаў дагэтуль застаюцца непачутымі. Адзіны крок насустрач — пацверджанне існуючага больш за пяць гадоў Дэканата БГКЦ, — ёсць, безумоўна, істотным, але не дастатковым.

Усё ж, нягледзячы на ўсе цяжкасці й непаразуменні, з якімі сутыкаюцца беларускія вернікі ў кожнай сферы свайго існавання, мы верым непахісна ў Провід Божы і ў мудрасць Святога пасаду і спадзяёмся, што напярэдадні 400-годдзя Берасцейскае Уніі Святы Айцец не пакіне беларускі народ і Беларускую Уніяцкую Грэка-Каталіцкую Царкву без свайго блаславення.

**Сустаршыні Камітэта па святкаванні 400-годдзя Берасцейскае Царкоўнае Уніі**
**доктар Анатоль ГРЫЦКЕВІЧ,**
**доктар Мікола КРУКОЎСКІ**

*3 верасня 1996 г.*

# ПЕРШЫ РЭКТАР

*(Працяг. Пачатак на стар. 13)*

Ва універсітэце ў 1921—1922 навучальным годзе быў арганізаваны шэраг публічных выступленняў, прыбытак ад якіх паступаў у фонд дапамогі галадаючым. У.Пічэта пісаў, што справа не ў колькасці сабраных сродкаў, а ў жывым удзеле ў справе дапамогі галадаючым жыхарам Паволжа.

Універсітэт стараўся выйсці за межы сталіцы Беларусі праз арганізацыю лекцый у Барысаве, Бабруйску і Слуцку. Асобныя прафесары і лектары прымалі ўдзел у чытанні паўторных педагагічных курсаў, як у Мінску, так і ў іншых гарадах Беларусі.

Асаблівую цікавасць для даследчыкаў гісторыі БДУ ўяўляюць матэрыялы аб станаўленні універсітэта як цэнтра нацыянальнай беларускай навукі і культуры. У.Пічэта падкрэсліваў: "...Універсітэт аддае мясцовай культуры першараднае значэнне, уводзячы дзеля гэтага адпаведныя курсы, альбо ствараючы цэлыя аддзяленні з асобным цыклам навуковых дысцыплін, сярод якіх беларусазнаўства займае першае месца. Універсітэт спадзяецца, што, магчыма, у недалёкай будучыні ён верне на родную тэрыторыю ўсе вучоныя беларускія сілы, якія цяпер працуюць за межамі Беларусі".

Вясной 1922 г. у Беларускім дзяржаўным універсітэце адбыліся ўрачыстыя пасяджэнні, прысвечаныя 40-годдзю Я.Купалы і Я.Коласа. Уступным словам пасяджэнні адкрываў рэктар універсітэта прафесар У.Пічэта.

Па яго ініцыятыве ў якасці выкладчыкаў БДУ запрашаліся лепшыя вучоныя з усёй краіны, чые навуковыя працы былі звязаны з Беларуссю. Пад кіраўніцтвам Уладзіміра Іванавіча універсітэт пераўтварыўся ў кузню педагагічных кадраў рэспублікі.

Асаблівую ўвагу ўдзяляў Пічэта таленавітым беларускім юнакам і дзяўчатам з ліку студэнтаў універсітэта, якія паспяхова займаліся даследчыцкай работай, усяляк дапамагаў ім у гэтым. Уладзімір Іванавіч неаднаразова ставіў у ЦК Кампартыі Беларусі, ЦВК БССР і Саўнаркаме рэспублікі пытанне аб адкрыцці ў БДУ аспірантуры, якая б рыхтавала навуковыя і выкладчыцкія кадры не толькі для універсітэта, але і для іншых вышэйшых навучальных і навуковых устаноў Беларусі. І вось нарэшце, па яго прапанове, 6 жніўня 1927 г. Саўнаркам Беларусі зацвердзіў "Палажэнне аб навуковых работніках вышэйшых навучальных устаноў і навуковых устаноў БССР". На падставе гэтага дакумента ў 1927 г. у БДУ была адкрыта аспірантура. У ліку першых аспірантаў былі вучні Уладзіміра Іванавіча Андрэй Бурдзейка, Дзяніс Дудкоў, Тодар Забэла, Кастусь Кернажыцкі, Аксіння Таўсталес, Цярэнцій Сцяпанаў, якія праявілі свае здольнасці да навукі на семінарскіх занятках па гісторыі Беларусі, народнай гаспадаркі БССР, рускага і беларускага права пад кіраўніцтвам Пічэты.

Пічэту належыць выдатная роля ў стварэнні і станаўленні Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Кіруючы на працягу 9 гадоў буйнейшай навучальнай і навуковай установай рэспублікі, ён праявіў вялікі талент арганізатара, педагога, грамадскага дзеяча, прыцягнуў да выкладчыцкай работы буйнейшых вучоных краіны, таленавітыя нацыянальныя кадры. Дзякуючы яго нястомнай дзейнасці БДУ ператварыўся ў буйны цэнтр навукі і культуры Беларусі. У.Пічэта быў акадэмікам АН СССР і АН БССР, таленавітым вучоным-гісторыкам. Яго не стала ў 1947 годзе.

**Эмануіл ІОФЕ,**
**доктар гістарычных навук, прафесар**

Меркаванне

# ТАК, ДАЗВАЛЯЎ ЧАС...

## АБ НОВЫХ ПАДЫХОДАХ У АСВЯТЛЕННІ ГІСТОРЫІ НАРОДНАЙ БАРАЦЬБЫ НА БЕЛАРУСІ СУПРАЦЬ НЯМЕЦКА-ФАШЫСЦКІХ ЗАХОПНІКАЎ

КАЛІ ЗАХОДЗІЦЬ гаворка аб новых падыходах у асвятленні нашай ваеннай гісторыі, заканамерна ўзнікае пытанне — а якія ж былі падыходы старыя? Зразумела, што на ўвазе маюцца падыходы, выпрацаваныя ў часы панавання ў грамадстве кампартыі, у часы сталіншчыны і "застою". У тагачасных абставінах пад моцным ідэалагічным кантролем зверху гісторыкі-даследчыкі, па сведчанні сучаснікаў, "пісалі так, як дазваляў час". А час дазваляў за малым выключэннем толькі ўзнёслы пафас ды ўпор на героіку. Бо зверху спускалася формула, якую патрабавалася ўспрымаць як загад: "гісторыкі павінны апаэтызаваць народную барацьбу ў тыле ворага" (цытата з вядомых заўваг сакратароў ЦК КПБ на макет трохтомніка "Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны"). Другі бок такіх інструкцый гісторыкам — "пераможцаў не судзяць!" — і з нашай ваеннай гісторыі здымалася ўсё тое цяжкае, негатыўнае, што не працавала на прэстыж рэжыму: Так рабілі ваенную гісторыю сусальна-прыгожай, пад глянцам, ружовенькай, падсаладжанай. Менавіта пры такіх падыходах злачынцу Барысу Луніну, амаль нязменнаму камандзіру (1942—1944 гг.) брыгады "Штурмавая", не было месца (яго сарамліва схавалі ад грамадскасці) у грунтоўным даведніку "Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны" (Мн., 1983). Пры такіх падыходах, вядома, мала хто ведаў, акрамя спецыялістаў, і шмат пра што іншае з партызанскага "негатыву", пра сталінскія злачынствы падчас вайны.

Гэтыя ідэалагічна-адміністрацыйныя путы былі скінуты з даследчыкаў не адразу, пасля працяглай барацьбы. Адзін з эпізодаў гэтай барацьбы — цкаванне і шальмаванне людзьмі сталінісцкага гарту ўжо ў часы гарбачоўскай "перабудовы" кінафільма Э.Клімава і А. Адамовіча "Ідзі і глядзі", які зрываў рамантычны флёр з ваеннай тэматыкі. Старыя падыходы ў поглядзе на вайну часта сустракаюцца ў друку, у выступленнях на прадстаўнічых сходах яшчэ і сёння.

Калі на дзяржаўным узроўні нагаданы ідэалагічны прэс быў зняты, высветлілася, што нявывучанымі, недаследаванымі засталіся яшчэ шмат якія пытанні, высветлілася, што ва ўсёй глыбіні і складанасці нашу ваенную гісторыю мы яшчэ не ўбачылі.

Пошук у русле новых падыходаў вядзецца ўжо шэраг гадоў, пачынаючы з другой паловы 80-х. З такім аналізам ваеннай рэчаіснасці з'явілася нямала артыкулаў, выйшлі першыя кніжкі. Сярод іх — "Старонкі ваеннай гісторыі Беларусі. Вып. 1". (Мн., 1992), "История Беларуси. Вопросы и ответы". (Мн., 1993) і іншыя.

Даследчыкі не пакінулі праблему гераізму, не адмаўляюцца ад далейшага асвятлення подзвігу людзей, якія перамаглі фашызм. Далёка не ўсім яшчэ героям гісторыкамі аддадзена належнае. Праз напластаванні гадоў з архіўных і іншых крыніц усплываюць усё новыя гераічныя факты, падзеі, імёны. Шмат чаго новага можна ўбачыць ва ўжо, здавалася б, вядомым. Асабліва, калі шмат на што паглядзець пад іншым ракурсам, убачыць ва ўсёй складанасці абставіны жыцця, становішча людзей пад акупацыяй, іх перадваенны лёс. Так ужо было з К.Заслонавым, — разабраліся, убачылі не заглянцаваны, не залакіраваны яго вобраз, а ва ўсёй трагічнасці.

Здараецца, што старыя падыходы не даюць грамадству ведаць яшчэ і сёння ўсіх сапраўдных сваіх герояў. Хто і сёння, акрамя спецыялістаў, ведае Сяргея Алфеева? Партызанскім падрыўнікам званне Героя Савецкага Саюза прысвойвалі за 18—20 пушчаных пад адхон варожых цягнікоў. А С. Алфееў, знаходзячыся ў партызанскім атрадзе М.Міхайлашава, падарваў 44 нямецкія эшалоны (аб гэтым сведчаць архіўныя крыніцы, успаміны) і толькі праз 20 год пасля Перамогі быў узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга. Чаму так? Бо паходзіў з сям'і рэпрэсіраванага дзеяча царквы, падчас вайны трапіў у палон, каб не загінуць у нямецкім канцлагеры, пайшоў у войска Уласава, дзе нейкі час служыў у гаспадарчым падраздзяленні. Знайшоў момант і перайшоў да партызан, дзе стаў выдатным дыверсантам-падрыўніком, камандаванне двойчы прадстаўляўся да звання Героя Савецкага Саюза. Але наверсе кожны раз накладвалі рэзалюцыю, нібы кляймо: "Из вражеских формирований. Сын попа". І хто сёння на Беларусі ведае Сяргея Алфеева, самага выніковага партызанскага падрыўніка?

Раней гісторыкі не шмат звярталі ўвагі і на тое, што амаль заўсёды гераічнае змаганне, барацьба на акупіраванай тэрыторыі мелі свой асобны трагедыйны, трагічны падтэкст. Бо вельмі часта ў адказ на ўдары партызан і падпольшчыкаў фашысты абрушваліся на безабароннае насельніцтва беларускіх гарадоў і вёсак. Напрыклад, калі 20 мая 1942 г. на шашы Свянцяны—Лынтупы партызанская група Ф.Маркава з засады знішчыла гебітскамісара Віленскай акругі і шэфа жандармерыі, у адказ на гэта гітлераўцы забілі ў навакольных населеных пунктах каля 1 тысячы чалавек. Тысячы і тысячы жыццяў каштавала знішчэнне падпольшчыкамі В.Кубэ. Гэты бок барацьбы, цана змагання з акупацыяй даследаваліся вельмі недастаткова, пра гэта не любілі пісаць, абыходзілі гэта. Цяпер — трэба.

Шырокі новы аспект, які не мог раней разглядацца даследчыкамі — сталіншчына і яе ўздзеянне на развіццё падзей на акупіраванай тэрыторыі. Пачатак у асвятленні гэтай праблемы зроблены. У друку з'явіліся матэрыялы аб рэпрэсіраваным важаку клічаўскіх партызан У.Нічыпаровічу, аб дзейнасці органаў НКУС у партызанскіх зонах. Частковае раскрыццё гэтай тэмы можна знайсці нават у кнізе К.Дамарада (здавалася б, гісторыка артадаксальна-старой школы) "Партийное подполье и партизанское движение в Минской области. 1941—1944", Мн., 1992) — "справу" таго ж Б.Луніна, гібель ад рук сваіх Н.Адзінцовай, шмат іншае з трагічнага і непапраўнага, што неразборліва прынеслі змагарам свае ж.

Важным дасягненнем можна лічыць тое, што стараннямі аддзела ваеннай гісторыі Інстытута гісторыі АНБ грамадская свядомасць у апошнія гады адышла ад трафарэту, выпрацаванага яшчэ ў часы Л.Цанавы — ад успрымання падзей на акупіраванай тэрыторыі як "усенароднай барацьбы супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў". Прынамсі, са школьных падручнікаў, са шматлікіх іншых выданняў такі тэрмін знік, гаворка пайшла пра "масавую барацьбу". Амаль усе пагадзіліся з тым, што падчас акупацыі на Беларусі дзейнічалі рознанакіраваныя сілы. Разнастайныя крыніцы гавораць менавіта аб гэтым. Вядома, большая частка насельніцтва, вельмі значная частка, была на баку Чырвонай Арміі. Але ж добра вядома і пра калабарацыю, у навуковае карыстанне ўвайшоў тэзіс аб супрацьстаянні ў соцыуме акупіраванай тэрыторыі, гаворка пайшла пра элементы грамадзянскай вайны падчас акупацыі. Калі яшчэ ўспомніць, што на Беларусі дзейнічалі таксама ўзброеныя адзінкі АК і АУН (і іх падтрымлівалі пэўныя слаі, групы насельніцтва), дык ад "усенароднасці" і следу не застаецца. Грамадства на Беларусі, як і ў іншыя ваенныя часы, як і ў мінулых войнах, раскалолася. Зразумела, на няроўныя часткі. На баку Чырвонай Арміі супраць фашызму толькі ўзброеных, актыўных байцоў выступіла каля 1,5 мільёна чалавек (франтавікі, партызаны і падпольшчыкі). Але было і іншае.

Тэматыка калабарацыянізму ў апошнія гады зрабілася папулярнай. За яе ўзяліся як грунтоўныя даследчыкі, так і публіцысты, з цікавасцю звяртаюць увагу на гэту праблему, што раней, не распрацоўвалася глыбока, і розныя сённяшнія палітычныя плыні. На погляд аўтара, у друку, іншых сродках масавай інфармацыі ў сённяшні час запрацавала "новая апаэтызацыя", апаэтызацыя ўжо калабарацыі — з'яўляецца новы сусальны вобраз: змагароў за нацыянальную культуру і дзяржаву, якія ішлі разам з фашызмам. З іх спрабуюць зрабіць нацыянальных герояў. Забываючыся, што там, на калабаранцкім баку барыкад, розных хапала — і звычайных люмпенскіх элементаў, што пайшлі служыць немцам за паёк, каб урваць нешта асабіста сабе, і тых, што спрабавалі стварыць сваю нацыянал-сацыялістычную партыю. Варта ўспомніць і пра апалагетыку гітлерызму, якая гучала ў друкаванай і вуснай прапагандзе калабарантаў, і пра апраўдванне знішчэння яўрэйскага насельніцтва (і пра ўдзел у гэтым знішчэнні асобных груп калабарантаў), і пра ўдзел у распраўах над партызанскімі сем'ямі, у карных экспедыцыях немцаў, і пра брыгаду СС "Беларусь".

Малавядомая тэма, якая доўгі час замоўчвалася — злачыннасць у партызанскім асяроддзі, " негатыў" ва ўзаемаадносінах партызан і насельніцтва. У апошні час грамадскасці добра сталі вядомы "справы" Луніна, Калайджана. Супрацоўнік аддзела ваеннай гісторыі Інстытута гісторыі АНБ У.Гуленка не так даўно ўвёў у навуковае карыстанне лічбу — больш чым 2300 партызан, расстраляных партызанскімі трыбуналамі за тыя ці іншыя злачынствы. Аднак вялізны масіў дакументаў, што тычыцца гэтай тэмы, яшчэ чакае дасканалай распрацоўкі.

Гісторыкам даводзіцца гаварыць і пісаць не толькі пра гераізм, пра ўзлёт чалавечага духу ў шэрагу выпадкаў на вайне, не толькі пра цяжкае трыванне ў ваенных абставінах (але ўсё ж у чалавечых рамках). Даводзіцца гаварыць і аб сапраўды жудасных рэчах, у тым ліку і пра здзічэнне, азвярэнне людзей на вайне. пра страшныя шматлікія прыклады з нямецкага боку мы добра ведаем. Аднак, на жаль, яны былі і з нашага боку таксама. Пра гэта нельга маўчаць, калі мы хочам мець поўную гісторыю вайны. Пісьменніца Святлана Алексіевіч на гэты конт аднойчы выказалася так: "На войне в противнике не видят человека. Увы... В результате ты сам теряешь человеческий облик. Война ожесточает, озлобляет добрых, умных, порядочных, всех..." Можна дадаць — нярэдка і пераўтварае ў сапраўдных звяроў. Гэта старонка нашай ваеннай гісторыі ўжо таксама пачынае асвятляцца.

Такім чынам, ад артадаксальна-камуністычнага, сталінісцкага погляду на падзеі вайны ў апошнія гады даследчыкі пачалі адыходзіць, выпрацоўваць новае, больш глыбокае бачанне вайны, рабіць у гэтым накірунку больш-менш удалыя крокі. Аднак праца яшчэ толькі распачалася, намаганні трэба нарошчваць.

**Уладзімір КУЗЬМЕНКА,**
**кандыдат гістарычных навук**

Павел САКОВІЧ

# ЭПІГРАМЫ, ЯК РЭКЛАМЫ

### СЯРГЕЙ ЗАКОННІКАЎ

**Законы творчасці, жыцця**
**Ён пазнае да сівізны на скронях.**
**Я не зраблю тут адкрыцця:**
**Аўтарытэт расце ягоны,**
**Сяргей — паэт законны**
**І ў законе.**

### СЯРГЕЙ ГРАХОЎСКІ

**Калі ў краіне быў аўрал,**
**"Хапун", сказаць дакладней,**
**Ён трапіў на лесапавал —**
**Так склаўся лёс яго няладна.**

**Ды час дарма ён не губляў, —**
**Тады, відаць, усё прадбачыў, —**
**Бо з гэтых дроў, што "наламаў",**
**Паперы потым атрымаў**
**Вагонаў сто, лічы, няйначай!**

**Цяпер няма ў яго праблем:**
**Нарыхтаваў паперы ўволю,**
**Хапае і жыццёвых тэм,**
**Любых — і радасных, і з болем.**

**Жывучы ён і моцны ён,**
**Не ўмее гнуцца, прыніжацца,**
**А землякам ужо чуцён**
**Адзнакі НОБЕЛЕўскай звон —**
**Ну як паэту не старацца!**

### ІВАН ШАМЯКІН

**Тамы ягоных кніг і справы,**
**Як сэрца, на далонь не ўскласці...**
**Былі ў яго адзнакі славы,**
**Было трывожным яго шчасце!**

**Не адмаўлялі у даверы**
**Яму ўлады і грамадства:**
**Ён быў Атлантам для той веры,**
**Падмуркам жа — яго мастацтва.**

**А ўсе ж і я ў яго ўлюбёны —**
**Ну як у ім расчаравацца?!**
**На п'едэстал з тамоў ягоных —**
**І тут не стану я вагацца —**
**Дапамагу яму ўзабрацца!**

### МІКАЛАЙ ЯРОМЕНКА — СТАРЭЙШЫ

**Ён можа пераўвасабляцца,**
**Аднак не ўмее прытварацца.**
**Сцвярджаю смела я, што ён**
**Не быў, як той хамелеон.**
**Нязменны! І ніколі не мяняўся,**
**Таму так добра й захаваўся!**

### ЗІНАІДА БАНДАРЭНКА

**Над Зінаю не ўладны час:**
**Экран, ці што, амаладжае...**
**Энергіяй яна ўсіх нас,**
**Як Кашпіроўскі, зараджае.**

**Як і не думае старэць,**
**Ці ў адпачынак адпраўляцца.**
**З якога боку ні глядзець —**
**Ёсць Зіне чым пакрасавацца.**

**Як жыць, яна дыктуе нам,**
**Бо зведала й сама багата...**
**Дыктуй жа праўду гледачам,**
**Нязвергнуты**
**тэлеДЫКТАтаР!**

### АНДРЭЙ МДЗІВАНІ, ВАЛЯНЦІН ЕЛІЗАР'ЕЎ

**Кіпяць ваўсю вакол**
**Рагнеды "Страсці":**
**Вядомыя шукальнікі рукі**
**Прад ёй гатовы на калені ўпасці,**
**Хаця яны даўно не юнакі.**

**Яна ж жанчына княжацкага роду.**
**А тут яшчэ прыслалі навіну:**
**Далі ў Парыжы ёй узнагароду —**
**Яе прызналі лепшаю адну!**

**Раўнівыя абодва, нібы маўры,**
**Ды ўсё ж спрачаліся, відаць, дарма:**
**Яна свае пакінула ім лаўры**
**І ў манастыр пайшла**
**ад іх сама!**

### УЛАДЗІМІР ПАЎЛАЎ

**Амаль юнак з душой узнёслай**
**Па "Ўзлётнай паласе" памчаў...**
**Той раніцою, светлай, роснай,**
**Як бусляня, ён акрыляў.**

**І ў неба ледзь не вертыкальна**
**З аэрадрома узляцеў.**
**Круг над Замошшам**
**развітальны**
**Паэт зрабіць яшчэ паспеў.**

**А потым "Далягляд" шырокі**
**Адкрыўся з яснай вышыні...**
**Спускацца на зямлю з аблокаў**
**Не хоча Уладзімір, ані!**

**Яму жыхар зямны не роўня:**
**Ён вышыню — ого! — набраў.**
**Яго натхняюць зоркі, поўня,**
**Таму і творчасць на узроўні**
**Ён на высокім утрымаў!**




ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

*Газету рэдагавалі:*

| | |
|---|---|
| *Х.Дунец* | (1932-35) |
| *І.Гурскі* | (1935-41) |
| *А.Куляшоў* | (1945-46) |
| *М.Горцаў* | (1947-49) |
| *П.Кавалёў* | (1949-50) |
| *В.Вітка* | (1951-57) |
| *М.Ткачоў* | (1957-59) |
| *Я.Шарахоўскі* | (1959-61) |
| *Н.Пашкевіч* | (1961-69) |
| *Л.Прокша* | (1969-72) |
| *Х.Жычка* | (1972-76) |
| *А.Асіпенка* | (1976-80) |
| *А.Жук* | (1980-86) |
| *А.Вярцінскі* | (1986-90) |

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**

**прыёмная рэдакцыі — 2332-461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 2332-525, 2331-985**
**аддзелы:**
**публіцыстыкі — 2332-525**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985**
**літаратурнага жыцця — 2332-462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985**
**паэзіі і прозы — 2332-204**
**музыкі — 2332-153**
**тэатра, кіно і тэлебачання — 2332-153**
**выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 2332-462**
**навін — 2332-462**
**мастацкага афармлення — 2332-204**
**фотакарэспандэнт — 2332-462**
**бухгалтэрыя — 2682-660**





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 4785
Нумар падпісаны 31.10.1996 г.
Заказ 6970/Г

П 123456789101112
М 123456789101112